ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ ЦАНА — PRICE ¢ 50

# Беларус

BIELARUS — BYELORUSSIAN NEWSPAPER IN THE FREE WORLD
POST ADDRESS: BIELARUS. P. O. BOX 109. JAMAICA, N. Y. 11431. Tel.: (212) 380-2036

Год XXIV, № 209 New York, September — Верасень 1974 Vol. XXIV, № 209

## ПЕРШАЯ СУСЬВЕТНАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ



**Частка ўдзельнікаў Сустрэчы перад царквой Жыровіцкай Божай Маці ў Манчэстары**

17-18-га жніўня 1974-га году адбылася ў ангельскім горадзе Манчэстары Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў. Удзел узялі ў ёй былыя беларускія вайскоўцы з Аўстраліі, Канады, Гішпаніі, Францыі й Ангельшчыны. Сустрэча сьвяткавала 30-я ўгодкі заснаваньня Беларускае Краёвае Абароны і ўшанавала памяць Беларусаў, што змагаліся й аддалі сваё жыцьцё за волю Бацькаўшчыны.

Падрыхтоўкай Сустрэчы займаліся два раней створаныя камітэты. Адзін зь іх, з Таронта, Канада, плянаваў і прапагаваў Сустрэчу між вэтэранаў - суродзічаў у Вольным Сьвеце. З гэтай мэтай выдаў чатыры бюлетэні. Камітэт з Манчэстару, фактычны гаспадар Сустрэчы, заняўся гаспадарскім пляннаваньнем.

Праграма Сустрэчы трывала два дні. Сыботу, 17-га жніўня, прысьвяцілі нарадам, а ў нядзелю адбыліся Службы Божыя ў дзьвюх мясцовых праваслаўных цэрквах ды галоўны ўрачысты збор.

Ужо каля паўдня ў сыботу заля пры царкве Жыровіцкае Божае Маці напоўнілася вялікім гоманам. Сустракаліся, абдымаліся людзі, што ня бачыліся па дваццаць ці трыццаць гадоў, шмат зь іх не маглі распазнаць сябе з выгляду. Ці-ж дзіва, што не абышлося бяз эмоцыяў?

Пасьля рэгістрацыі прысутных удзельнікаў, каля гадзіны другой сэсію Сустрэчы адчыніў ейны старшыня сп. Х. Кажаневіч. Айцец Янка Пякарскі прачытаў малітву. Удзельнікі ўсталі й засьпявалі жаўнерскую песьню-малітву „Беларусь — наша Маці-Краіна" ды хвілінай маўчаньня згадалі памяць тых, што аддалі жыцьцё за волю Беларусі.

Старшыня нарады прадставіў пачарзе ўсіх прысутных, а пасьля былі прачытаныя прывітаньні. Галава БАПЦ, Мітрапаліт Андрэй вітаў і багаславіў Сустрэчу ад Царквы, ген. Я. Сажыч вітаў ад Справаў Вэтэранаў, БНР, айцец А. Смаршчок вітаў і выказаў пажаданьні ад Беларусаў Бэльгіі.

Сп. А. Качан з Сыднэю, Аўстралія, выказаў думкі й пажаданьні Згуртаваньня Беларусаў Новай Паўднёвай Валіі ды прачытаў сьпіс аўстралійскіх Беларусаў, каторыя віталі нашых эўрапейцаў, родных ці сяброў. Дадаткова ягонае асабістае прывітаньне й выказаныя прынагодныя думкі да глыбіні кранулі прысутных. Удзельнікі пачулі цёплыя, сяброўскія словы ад сп. В. Сянькевіча зь Гішпаніі й сп. Н. Наўмовіча з Францыі. Сп. Я. Міхалюк прывітаў ад Згуртаваньня Беларусаў Вялікае Брытаніі, сп. Я. Бунчук ад БВФ, Ангельшчына, сп. А. Маркевіч — ад рэдакцыі „Беларуса" й управы „Пагоні", а сп. К. Акула вітаў ад Згуртаваньня Беларусаў Канады. Ён-жа перадаў і даручанае яму прывітаньне ад старшыні Беларускага Нацыянальнага Аб'еднаньня ў Канадзе сп. Я. Пітушкі.

Чаргова ўдзельнікі Сустрэчы інфармавалі прысутных пра беларускіх вэтэранаў у сваіх краінах ці калоніях. З гэных гутарак выявілася, што пераважная бальшыня былых беларускіх вайскоўцаў у краінах Вольнага Сьвету ня была й ня ёсьць зарганізаванай, што ў васноўным нашыя вэтэраны ня маюць ані добрай сувязі, ані нейкага прэсавага воргану. У Нью Ёрку й ваколіцах ёсьць зарганізаваныя беларускія вэтэраны. Сп. Бунчук, старшыня Беларускага Вызвольнага Фронту ў Ангельшчыне даволі грунтоўна высьвяліў характар і дзейнасьць БВФ у Вольным Сьвеце.

Сп. К. Акула коратка прыгадаў, як і чаму зарганізавалася Сустрэча, як шмат было перашкодаў, і затрымаўся над прычынамі гэтага. На яго думку, ня было ніякай цэнтральнай каардынацыі нашых вэтэранскіх арганізацыяў і незарганізаваных вэтэранаў. Яшчэ горш — няма беларускай вэтэранскай прэсы. Калі Сустрэча, апрача сьвяткаваньня ўгодкаў вялікай гістарычнай падзеі, мае прынесьці яшчэ й дадатковую карысьць, яна мае зрабіць нейкі ініцыятыўны крок, каб направіць недахопы. На гэтую тэму трывала даўгая дыскусія. Выявілася агульная думка, што Сустрэча ня можа й не павінна тварыць ніякай новай арганізацыі. Пастаноўлена выбраць Камітэт Сувязі былых Беларускіх Вайскоўцаў (КСБВ). Яму даручана выдаць часапіс Беларускіх Вайскоўцаў, арганізацыю Беларускага Вайсковага Архіву. Галоўным заданьнем КСБВ, як гаворыць яго назоў, будзе сувязь. КСБВ мае прапанаваць існуючым беларускім вэтэранскім арганізацыям свае паслугі ў галіне сувязі, інфармацыі, зборы архіўных вайсковых матар'ялаў ды выдавецтва. КСБВ мае стаяць на апартыйным грунце. Ён ня ёсьць ніякай, ужо амаль прыказачнай, трэйцяй ці чацьвертай „сілай" ці арганізацыяй.

Каб Камітэт мог працаваць, сябры яго мусяць быць у цесным і блізкім кантакце, значыцца жыць побач. Аднагалосна прызнаўшы яго значны ўклад у арганізацыю Сустрэчы, удзельнікі выбралі старшынём КСБВ пісьменьніка Кастуся Акулу, сябрам — Антона Маркевіча. Ім даручана ў Таронце запрасіць да працы яшчэ аднаго ці двух сяброў.

Сп. П. Шыркоўскі прачытаў прапанаваныя рэзалюцыі, на каторыя прысутныя ўдзельнікі далі свае папраўкі й заўвагі. Старшыня сэсіі паінфармаваў пра заўтрашнюю праграму й на гэтым скончыўся працоўны дзень. Тут-жа зараз загучэлі беларускія вайсковыя песьні. Хіба даўно, вельмі даўно, дый ці наагул калі гучэлі яны так заўзята й так прыгожа на гэтым гасьцінным абтоку.

„Вэтэранская" нядзеля пачалася ў цэрквах. У царкве Сьв. Мікалая служыў а. М. Іскрыцкі, а ў царкве Жыровіцкае Божае Маці — а. Прат. Янка Абабурка і а. Янка Пякарскі. Больш вэтэранаў і гасьцей прыехала з розных гарадоў Ангельшчыны. Пасьля Сьвятое Літургіі, прыйшлі шчырыя малітвы за волю Беларусі, за народ і ўдома й на выгнаньні, за цярпячых, гаротных і слабых, за моцных, змагарных і вытрывалых. Каб дапамог Усявышні скараціць пакуты Беларускага Народу, вярнуў яму волю, а Беларускім Вэтэранам у Вольным Сьвеце прыспорыў здароўя й сілаў у працы для вызваленьня й дабра Бацькаўшчыны. Пра тое, што трэба падтрымліваць Беларускую Царкву гаварыў а. Прат. Абабурка. Ён-жа жадаў удзельнікам Сустрэчы плённай працы й посьпехаў у будучыні.

Яшчэ ўчора сп. Янка Калбаса прывёз памятную дошку, якую ён у бальшыні праектаваў і дагледзеў, каб на час зрабілі яе. Цяпер-жа яна стаіць на століку пры царкоўнай сьцяне, закрытая. Два айцы пасьвячаюць гэту дошку. Збоку вэтэраны трымаюць брытанскі й беларускі сьцягі. Мясцовая маладая Беларуска, „Міс Беларашa" паволі адкрывае палатно. Чытаем: „Тым, што працавалі, змагаліся й памерлі, каб жыла Беларусь". Над гэтым напісам уверсе Пагоня й па кутох беларускія сьцягі. Унізе — напіс паангельску. Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў, асабліва-ж нашы грамады з Манчэстару й Брадфарду гэткім чынам ушанавалі памяць змагароў. Дошка, зробленая зь цьвёрдае пластыкі, знойдзе пачэснае месца на царкоўнай сьцяне.

Перад фронтам царквы аматары-фатографы просяць „народ", каб цясьней, раўней стаяў, каб усьміх-



**Ганаровая варта ля памятнае дошкі ў царкве падчас высьвячэньня**

(Заканчэньне на 3-й бачыне)

## ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У ЧЫКАГА



**Беларусы Чыкага ад даўжэйшага часу прыймаюць актыўны ўдзел у Тыдні Паняволеных Народаў і ў масавым вулічным парадзе, што становіць бадай што найважнейшы пункт праграмы ўрачыстасьці. Гэтак і сёлета Беларусы Чыкага, згуртаваныя вакол Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Чыкага, прынялі належны ўдзел у Тыдні, а беларускі багата ўквечаны й арыгінальна выкананы рыдван у парадзе 20 ліпеня сёлета быў прадметам агульнае ўвагі й захапленьня. Як бачым на вышэй зьмешчаным фотаздымку, на беларускім рыдване сярод мноства жывых кветак ехалі прадстаўнікі беларускай моладзі ў каляровых нацыянальных касьцюмах, наперадзе рыдвану горда павявалі амэрыканскі й беларускі нацыянальныя сьцягі, а над рыдванам ўзвышаўся вялікі партрэт Кастуся Каліноўскага, пад якім быў напіс у ангельскай мове: „КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ Беларускі Змагар за Волю й Нацыянальны Гэрой".**

## 30-Я ЎГОДКІ БКА Ў СЫДНЭІ

Нядзеля 28 ліпеня. Заля Беларускага Грамадзка - Культурнага Клюбу запаўняецца. Сабраліся Беларусы Сыднэю (Аўстралія), каб ўрачыста адзначыць адну з важнейшых падзеяў у нашым нацыянальным змаганьні — стварэньне нацыянальнае збройнае сілы — Беларускае Краёвае Абароны, якая хоць на кароткі час аднавіла нашую беларускую вайсковую традыцыю. Жаўнеры БКА сваім нацыянальным духам і ахвярнасьцяй у змаганьні аказаліся дастойнымі спадкаемцамі нашых старадаўных воінаў.

Старшыня Клюбу М. Антух адчыніў ўрачысты сход і прывітаў прысутных. Рэфэрат на тэму дня прачытаў М. Лужынскі. Ён нарысаваў гісторыю БКА ад ейнае арганізацыі да трагічнага ейнага канца. Аналізуючы палітычныя абставіны гэнага часу, дакладчык зазначыў, што ані Немцам, ані бальшавіком нацыянальная беларуская збройная сіла была непажаданая. Немцы, цярпячы няўдачы на фронце, хаця й згадзіліся на беларускія дамаганьні й дазволілі на арганізацыю БКА, але ставіліся да яе зь недаверам, абмяжоўваючы, дзе толькі магчыма, ейную дзейнасьць.

Бальшавікі ўважалі стварэньне БКА загрозай для іхніх захопніцкіх намераў, і таму ўсякімі спосабамі стараліся не дапусьціць да мабілізацыі, якая праходзіла зь вялікім нацыянальным уздымам беларускага народу.

Гэты нацыянальны ўздым перамог усе арганізацыйныя цяжкасьці й матэрыяльныя недахопы. А калі рады жаўнераў узначалілі маладыя выпускнікі Ахвіцэрскае школы БКА, куды ўлілася найбольш нацыянальна сьведамая моладзь, нацыянальны ўздым, як магутная бурлівая паводка, захлынуў і пацягнуў за сабою ўсё адсталае. Жаўнер БКА быў гатоў змагацца й аддаць жыцьцё за народ і Бацькаўшчыну.

З прысутных выступілі сп.сп. М. Зуй, д-р Я. Малецкі й А. Булаўскі. Прамоўцы расказвалі пра іхны ўдзел у арганізацыі БКА, згадвалі, якія цяжкасьці мелі, змагаючыся з бальшавіцкімі партызанамі, адзначалі ведамыя ім гэраічныя вычыны жаўнераў БКА й наагул Беларусаў з розных куткоў Бацькаўшчыны.

Пасьля прачытаньня многіх прозьвішчаў жаўнераў БКА, што загінулі ў змаганьні або пазьней адыйшлі ад нас, прысутныя прапялі беларускі пахаронны гімн „Сьпі пад курганам героеў".

З дэклямацыямі выступіў Алесь Зуй, за што прысутныя падзякавалі яму бурнымі воплескамі. На заканчэньне сп. Л. Дэдуля прачытаў верш, напісаны ім на 30-я ўгодкі БКА.

Пасьля афіцыйнае часткі прысутныя за сталамі яшчэ доўга дзяліліся думкамі й успамінамі з тых бурлівых часоў на Бацькаўшчыне, што адыйшлі ўжо ў гісторыю.

**А. К.**

---

**Пленум Вярхоўнага Суду БССР,** як падала менская „Сельская газета" (ды іншыя газеты) за 29. 8. 74, „забавязаў суды назначаць суровыя меры пакараньня зласьлівым марнатраўцам дзяржаўнае й грамадзкае маемасьці, ужываць у дачыненьні да іх прадбачаныя законам дадатковыя меры пакараньня ў выглядзе пазбаўленьня права займаць азначаныя пасады або займацца пэўнай дзейнасьцяй ды канфіскацыі маемасьці".

Пастанова гэтая выглядае на яшчэ адно пацьверджаньне бытавое заканамернасьці савецкага грамадзтва: не ўкрадзеш — не пражывеш. Іначай кажучы, дзеіць няўміручы ленінскі заклік з часоў рэвалюцыі: рабуй нарабаванае.

## ДА НАШЫХ ПАДПІСЧЫКАЎ

Цана аднаго нумару газэты „Беларус" у вышыні 50¢ і гадавая падпіска на газэту ў суме $ 6.00 былі ўстаноўленыя яшчэ ў 1963 годзе. Ад гэнага часу кошты выданьня газэты, паперы, паштовае аплаты й іншыя выдаткі ў сярэднім падвоіліся. Гэта зразумела бальшыня нашых падпісчыкаў, што самі із свае ініцыятывы пачалі плаціць падпіску за газэту штонайменш у вышыні $ 10.00 на год, як пра гэта кажны можа пераканацца із зьмяшчаных у канцы 6-ае бачыны кажнага нумару газэты грашовых справаздачаў пад загалоўкам „На Выдавецкі Фонд Беларуса".

Пачынаючы ад Новага 1975 Году, мы аднак змушаныя ўстанавіць наступныя новыя цэны за газэту: **Цана аднаго нумару — $ 1.00, гадавая падпіска — $ 10.00 разам зь перасылкай.**

Апрача гэтага, пачынаючы ад Новага Году, мы змушаныя таксама падняць аплаты за выкананьне клішаў для ілюстрацыяў у газэце: **за клішу шырыняй у вадну газэтную шпальту — $ 8.00; шырынёю ў дзьве газэтных шпальты — $ 12.00; шырынёю ў тры газэтных шпальты — $ 18.00.**

 



**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, Inc.

Subscription $ 6.00 yearly.

**„БЕЛАРУС"** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Вышіска зь перасылкаю — 6 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЕ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

**Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус" пастанавіла ўзяць на сябе ініцыятыву належна ўшанаваць і адзначыць у 1975-ым і, эвэнтуальна, у бліжэйшых наступных гадох слаўны нацыянальны й найвялікшы з усіх нацыянальных юбілеяў — Юбілей, які прыпадае адзін раз на тысячу гадоў — Тысячагодзьдзя Дзяржаўнасьці Беларусі.**

**Зьмяшчаючы ў гэтым нумары газэты артыкул П. Вішнеўскага „Да Тысячагодзьдзя Дзяржаўнасьці Беларусі", газэта „Беларус" адчыняе на сваіх бачынах дыскусію пра ідэю гэтага важнага юбілею, мэтазгоднасьць і неабходнасьць як найшырэйшага яго адзначэньня ды пра практычныя й арганізацыйныя спосабы ягонага правядзеньня.**

**Апрача гэтага, у рубрыцы „Тысячагодзьдзе Дзяржаўнасьці Беларусі" газэта будзе зьмяшчаць папулярна-навуковыя артыкулы пра пачаткі й гісторыю Беларускае Дзяржаўнасьці ад X-га стагодзьдзя аж да нашых дзён, якія змогуць паслужыць матарыялам для дакладаў у часе юбілейных урачыстасьцяў.**

**Мы прапануем, каб арганізацыю, падрыхтоўку й правядзеньне гэтых урачыстасьцяў узялі на сябе грамадзкія, палітычныя й культурныя беларускія арганізацыі й установы або, — што яшчэ лепш, — адмыслова створаныя гэтымі арганізацыямі й установамі Сьвяткавальныя Камітэты.**

**У сувязі з гэтым мы зьвяртаемся з просьбай да нашых гісторыкаў, грамадзкіх і культурных дзеячоў прыняць беспасярэдні ўдзел у распачатай у гэтым нумары газэты дыскусіі на тэму „Тысячагодзьдзе Дзяржаўнасьці Беларусі".**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ

### ПЕРШАЕ СУСЬВЕТНАЕ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ

Мы, беларускія вэтэраны, сябры Беларускае Краёвае Абароны й іншых беларускіх вайсковых фармацыяў на Бацькаўшчыне, сябры хаўрусьніцкіх войскаў, што змагаліся падчас Другой Сусьветнай Вайны на Захадзе, жыхары й грамадзяне Аўстраліі, Бэльгіі, Вялікай Брытаніі, Гішпаніі, Задзіночаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Нямеччыны й Францыі, сабраўшыся на Першай Сусьветнай Сустрэчы Беларускіх Вэтэранаў у Манчэстары 17-га й 18-га жнівеня 1974-га году й абмяркаваўшы сытуацыю Беларускага Народу удома й на выгнаньні, гэтым сьцьвярджаем і заяўляем:

1. Беларускі народ на тэрыторыі гэтак званай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, а таксама на выгнаньні ў Савецкім Саюзе ды на беларускіх этнаграфічных тэрыторыях, прымусова й бяз згоды нашага народу Масквой перададзеных суседзям, ня мае сяньня асноўных вольнасьцяў, якія яму належацца паводля Боскіх і прыродных правоў. Наадварот: маскоўскі таталітарны рэжым, пры дапамозе свае каляніяльнае палітыкі выкарыстоўвае прыродныя й людзкія багацьці Беларусаў для іхнае эканамічнае й культурнае загубы.

Пры помачы прыгоннае сыстэмы ў сельскай гаспадарцы і ў індустрыі, русыфікатарскае палітыкі ў школьніцтве й марксыстаўскае ў асьвеце, антырэлігійнае й антынароднае ў духовым жыцьці маскоўскі каляніяльны рэжым намагаецца выкараніць апрычонасьць нашага народу ўва ўсіх дзялянках духовга жыцьця з канчатковай мэтай уліцьця яго ў гэтак званую „новую савецкую нацыю". Эканоміка БССР плянуецца чужым і варожым нашаму народу рэжымам на карысьць маскоўскае каляніяльнае імпэрыі, а не дабрабыту беларускага народу.

2. Беларускі народ на працягу паваенных гадоў ці раз прадэманстраваў супраціў маскоўскй палітыцы. Даўгое, цяжкое й напорнае змаганьне вядзецца асабліва ў галінах культуры й асьветы. Новае пакаленьне беларускіх пісьменьнікаў і паэтаў, асьветнікаў і навукоўцаў ня толькі ня стала памочнікамі антынароднае й антырэлігійнае палітыкі пануючай Камуністычнай Партыі, але шмат разоў выступала ў вабароне ўсіх карэнных інтарэсаў свайго паняволенага народу, там дзе гэта было магчыма. Рух супраціву акупацыйнаму каляніяльнаму маскоўскаму рэжыму на Беларусі расьце.

3. 25-га Сакавіка 1918-га году Беларускі Народ праз дэмакратычна пакліканую Раду Беларускае Народнае Рэспублікі абвесьціў Беларусь вольнай і незалежнай дзяржавай. 27-га чэрвеня 1944-га году Беларускі Народ на Другім Усебеларускім Кангрэсе пацьвердзіў пастановы з 1918-га году да свае волі й незалежнасьці.

Мы просім урады вольных заходніх дэмакратычных краінаў, а таксама навукова-інтэлектуальны сьвет памагчы Беларускаму паняволенаму народу ў ягоным змаганьні за вызваленьне й маральна падтрымаць яго ў гэтым змаганьні. Гэткае маральнае падтрыманьне, асабліва калі яно выказанае спрыяючымі ведамымі навукоўцамі, грамадзкімі, палітычнымі й культурнымі дзеячамі мае вялікі палітычны патэнцыял. Адначасна дзякуем за тую помач Беларускаму Народу дый нашым эмігрантам, у тым ліку перадусім нашым вэтэранам, якую ўрады й культурна-палітычныя дзейнікі краінаў нашага цяперашняга месца пражываньня выказалі да гэтага часу.

4. Заклікаем беларускія вэтэранскія арганізацыі ў вольным сьвеце, усіх беларускіх вэтэранаў падтрымаць нашую ініцыятыву для арганізацыі й актывізацыі нашага вэтэранскага жыцьця, наладжаньня цеснага кантакту й супрацоўніцтва між намі ўва ўсіх краінах Вольнага Сьвету, прыняцьця мераў для выданьня вэтэранска-вайсковае літаратуры, арганізацыі архіву Беларускага Войска, рэгістрацыі нашых сяброў і іншых зьвязаных з гэтым мерапрыёмстваў.

Нашае цеснае супрацоўніцтва й ажыўленьне нашае дзейнасьці ёсьць абсалютна неабходнае для прысьпешаньня вызваленьня Беларускага Народу спад акупацыі чырвонае Маскоўшчыны.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ У ЗМАГАНЬНІ!**

Аднагалосна прынята ў г. Манчэстар, у залі Царквы Жыровіцкае Божае Маці,

17-18-га жнівеня, 1974 году.

## ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА У АДЭЛЯЙДЗЕ

У нядзелю 14 ліпеня сёлета Беларусы Адэляйды (Аўстралія) ўрачыста адзначылі сваё парахвіяльнае сьвята — Дзень Сьвятых Апосталаў Пятра й Паўла.

Урачыстую Службу Божую адправіў а. Георг, які ўжо год пасьля сьмерці а. Васіля выконвае абавязкі настаяцеля нашае царквы, і Беларусы яму вельмі ўдзячныя за гэта. Пасьля Божае Службы а. Георг адправіў малебен Сьвятым Апосталам, у часе якога было прапяянае „Многае лета" Мітрапаліту Андрэю й Архіяпіскапу Мікалаю. Хор сьпяваў пад кіраўніцтвам сп. Бурноса.

Усе прысутныя былі запрошаныя на багаты абед, які падрыхтавалі й ахвяравалі нашыя жанчыны, за што вялікае ім дзякуй. У часе абеду старшыня Парахвіяльнай Рады сп. Станкевіч прывітаў прысутных із сьвятам і падзякаваў а. Георгу за ягоную ахвярную працу для нашае царквы. На прапанову сп. Бурноса ўсе гучна прапялі а. Георгу „Многае лета". У сваім слове а. Георг выказаў задаваленьне, што Беларусы маюць сваю прыгожую царкву й будуюць прыцаркоўную залю.

Пад вясёлую музыку й песьні сьвята працягвалася аж да 6-ае гадзіны вечара. Вялікае дзякуй Парахвіяльнай Радзе і ўсім тым, што памагалі падрыхтаваць сьвята.

**П. Трысмакоў**

# ДА ТЫСЯЧАГОДЗЬДЗЯ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

**(Уводны артыкул у парадку дыскусіі і да шырэйшага абмеркаваньня беларускай грамадзкасьцяй ў вольным сьвеце)**

У сваім адвечным паходзе супроць Беларускага Народу, у нясупынным імкненьні перасунуць свае этнаграфічныя межы спад Вугры ды да Бугу, Масква ня грэбавала ані адкрытым разбоем, ані іншымі, больш рафінаванымі формамі зьдзеку. Асабліва пасьля канчатковага разгрому нашае Літвы яна заўзялася нягоднай ідэяй адмаўляньня нам усякае дзяржаўнае формы гістарычнага існаваньня ў мінулым. У гэтым далёкасяжным пляне пазбаўленьне нас нашага найважнейшага гістарычнага назову Літва — Літвіны, а зь ім і ўсяе нашай літоўскай гістарычнай традыцыі (а гэта звыш 500 год!) ёсьць бязумоўна найважнейшай пазыцыяй. Бо калі ў палавіне мінулага стагодзьдзя па ўсёй нашай этнаграфічнай тэрыторыі пад рэпрэсіямі Масквы концам заціх сярод народу назоў Літва-Літвіны, а новы назоў яшчэ ня прыняўся, выйшла запраўды быццам мы так і ня ведаем, хто мы і скуль браліся... Ды калі ўрэшце ў пачатку 20-га ст. пачаў пашырацца наш цяперашні назоў, стратэгічна нашае палажэньне гэтым нічуць не паправілася. Наадварот, яно бачна пагоршылася, бо цяпер Маскалі маглі сыпаць маладым энтузіястым Беларускага Адраджэньня як жарствой у вочы: „Якое-ж можа быць „адраджэньне", калі ніхто і ня чуў навет пра такое „государство" Беларусь; такога ніколі ня было!"[1]) А для тых, хто пасьмеў заікнуцца пра Літву, Масква ўжо мела гатовы адказ: „Литва это не Белоруссия", і гэтая хвальшыўка ўжо вырасла сяньня да памераў аксіёмы, якую Масква падпірае ўсёй сваёй сілай і аўтарытэтамі навуковымі. Бязумоўна цяжка нашаму палітычна-вызвольнаму руху прабівацца цераз гэту хітрую пляцень ілжы і хвальшу. Але праўду, як тое шыла ў мяшку, назаўсёды ня прыхаваеш: шмат што сьветчыць, што гістарычная праўда ў народзе з агульным ростам адукаванасьці шпарка пашыраецца. Таксама, удзельная вага гістарычнае веды ў нашым змаганьні значна ўзрасла, а з гэтым і яе адказнасьць за будучыню народу.

Важнае пытаньне беларускай дзяржаўнасьці ў мінулым было правільна асьветлена, разважана ды пазытыўна вырашана яшчэ нашымі першымі шукальнікамі гістарычнай праўды, праф. М. Даўнар-Запольскім, В. Ластоўскім, У. Ігнатоўскім, М. Гарэцкім ды інш., якім у бальшыні прышлося пацьвердзіць гэную праўду сваёй уласнай крывёю. Масква не магла глядзець спакойна, як Беларусы за няцэлых 10 год адноснай нацыянальнай свабоды ў Савецкай Беларусі амаль што адрабілі ўсе 120 год зьнішчальнай палітыкі цароў і сталі цьвёрдай ступою на шлях узнаўленьня свайго незалежнага гістарычнага існаваньня. Наступіў падступны, разбойніцкі напад на безабаронных людзей, якія за шмат даверыліся „братом", ваўком у авечай скуры: сьпярша была разгромленая прадуктыўная частка народу, нашае сялянства, цьвет якога быў па зьверску зьнішчаны, прычыняючы нам страту звыш міліёну нашай этна-біялягічнай масы. Пазьней, у пачатку 30-ых гадоў, прыйшоў пагром на ўсё беларускае нацыянальнае жыцьцё на ўсходзе (на захадзе Палякі, яшчэ раней, зрабілі тое-ж на свой зьверскі спосаб), у якім былі забітыя ці загнаныя ў казаматы на пэўную сьмерць усе нашыя гісторыкі й моваведы ды бальшыня пісьменьнікаў, літаратураведаў, мастакоў, маладых паэтаў, журналістых, археалёгаў, ну і нацыянал-камуністых. Так намагалася Масква ў моры крыві народнай канчаткова ўтапіць беларускую справу ды назаўсёды прыхаваць ад сьвету нашую праўду.

Усе мы глыбока верым, што ня збыцца гэтым гнюсным спадзяваньням ніколі і то не адно таму, што біялягічны і нацыянальна-палітычны патэнцыял Беларускага Народу, насуперак разьлікам Масквы, усьцяж узрастае, але галоўна з прычыны таго, чаго яна найбольш баіцца: нашае праўды ёй не ўдалося, і ніколі ня ўдасца перамагчы. У крыві міліёнаў яна не ўтапілася, а яшчэ асьвяцілася: сіла міліёнаў бязьвінных жыцьцяў, адданых за яе, гэта ўжо сьвятая праўда, нашая беларуская справа. Толькі Маскалём яна страшная; чэсны, сумленны чалавек ня можа не спагадаць ёй. А Беларусу, дзе-б ён ня жыў, у якіх абставінах ён-бы не знайшоўся — змагацца за яе сьвяты абавязак. Нам-жа, Беларусам у вольным сьвеце, насьпела вялікае заданьне нятолькі падняць голас рашучага пратэсту супроць гвалту, які церпіць нашая праўда ад ворага, але і ўзьняць гэтую праўду так высока, каб яе ўвесь сьвет смог убачыць.

Якая-ж яна ёсьць, тая старая праўда пра нас, Беларусаў? Скромныя памеры артыкулу не дазваляюць нам сягнуць задалёка ўзад. Скажам толькі, што ад мамэнту завяршэньня вялікага перасяленьня нашых продкаў з захаду і, думаем, часткова з поўдня — пачалося тое перасяленьне яшчэ ў 6-ым ст. па Хрысьце, а зацягнулася ў нас аж да 13-га ст., — Крывічы, Радзімічы, Дрыгвічы й іншыя плямёны засялялі тую самую тэрыторыю, на якой па сяньняшні дзень жывуць Беларусы. Тэрыторыя гэтая сталася нашым гістарычным прыпынішчам з волі Боскае; далёкія продкі нашыя займалі яе не як заваёўнікі, прагныя чужой зямлі й чужога дабра, а як уцекачы ад тых, хто ў сьвятое імя Хрыста ўхітрыўся быў агнём і мячом несьці ім зьнішчэньне й сьмерць. На гэтай-жа тэрыторыі і паўсталі нашыя пачатковыя дзяржаўныя арганізмы. Найпершым сярод іх бязумоўна было княства полацкіх Крывічоў.

Полацак (Полотескъ, у першых хроніках), адно з найстарэйшых славянскіх пасяленьняў на ўсход ад прыбалтыйскае зоны[2]). Першыя летапісныя згадкі пра Полацак дайшлі да нас церазь вядомы кіеўскі летапіс з канца 11-га ст. і церазь некаторыя пазьнейшыя (уласна полацкія летапісы, а яны былі яшчэ ў 16-ым ст., усе загінулі). Згадкі пра дзьве розныя падзеі, і з двух розных летапісаў, што адносяцца да гадоў 862 і 865, даюць нам падставу цьвердзіць, што ўжо ў тую раньнюю пару Полацак быў важным, сільна ўмацаваным апорным пунктам і палітычным цэнтрам заходніх Крывічаў. У палавіне 9-га ст. Полацак бяссумлеўна існаваў. Але ці быў гэта ўжо дзяржаўнага парадку арганізм, із сталай інстытуцыяй цэнтралізаванай улады, пакульшто сказаць ня можам. Найбольш праўдападобна, у ім тады даволі моцна трымаўся яшчэ пляменна-вечавы сацыяльна-палітычны лад. Відаць з гэтае прычыны ён і падпаў быў зразу ў залежнасьць ад новых „вараскіх" князёў Ноўгараду. Ведама, гэна падлегласьць „Нову-городу" мусіла асабліва цяжыць старому Полацку, тым летапісным „грозным Палачанам". Як відаць з тых, хай сабе й няпоўных летапісных вестак, Полацак хутка збунтаваўся й вызваліўся ад тае залежнасьці. Але як і калі гэта сталася, за нястачай радзімых полацкіх летапісаў, яшчэ не ўдалося ўстанавіць. Ясна, што ўсе гэтыя падзеі спрыялі паўстаньню ў Полацку дзяржаўнага парадку.

Выходзіць, што пра час утварэньня першай беларускай дзяржавы, Княства Полацкага, можам рабіць толькі пасярэднія высновы на аснове чужых крыніц. Тым ня менш гэны час даецца прыблізна ўстанавіць. За аснову бярэм з таго-ж кіеўскага летапісу шырака ведамую легенду пра сватаўство Ўладзімера, князя ноўгарадзкага, пазьней кіеўскага ,да нашай князёўны полацкай Рагнеды і яго трагічныя вынікі. Легенда гэтая вякамі апявалася у былінах народнага эпасу і гэтым пацьвярджаецца праўдзівасьць асноўных падзеяў. Ува ўсёй тэй, яўна паніжаючай Полацак гісторыі, ёсьць адна важная і рэальная дэталь: сьмерць першага гістарычнага князя полацкага Рагвалода, Рагнедзінага бацькі, — заморскага паходжаньня, як падкрэсьлівае летапісец. Канфрантацыя розных летапісаў паказвае, што падзеі тыя мелі месца ў часе паміж 970-980 гадамі, г. зн. дакладна 1000 гадоў таму назад! Вось гэта і ёсьць гістарычна ўдакумэнтаванае пацьверджаньне таго, што ўжо недзе каля палавіны 10-га ст. Полацак быў галавою незалежнага гаспадарства нашых слаўных продкаў Крывічоў. Навет пасьля здрадніцкага нападу Уладзімера ён хутка апраўляецца і ўзноў парывае ўсякую залежнасьць ад Кіеву на больш чымся 100 год. А значыць **гэта й была ў поўным сэнсе нашая незалежная дзяржава.**

Існаваньне крывіцкага незалежнага княства ў Полацку, а ніякага вараскага ці нарманскага, у другой палавіне 10-га стг. ёсьць фактам гістарычна ўдакумэнтаваным, не падлягаючым сумлеву. Няма ніводнага сур'ёзнага гісторыка, навет расейскага, які-б удакумэнтавана запярэчыў гэтаму факту. Дык-жа неаспрэчным ёсьць і тое, што калі ўжо нашыя продкі Крывічы цешыліся новай тады формай дзяржаўнага жыцьця, калі стары Полацак ужо слыў далёка і шырока, як адзін з галоўных палітычных і культурных цэнтраў усходняга славянства, на месцы, дзе сяньня рассьселася Масква, драмалі непраходныя пушчы, а ў іх фінскія плямёны ўганяліся за медзьвядзямі... Беларусы апярэдзілі Маскву штонайменш на 200 год! Прызнаць гэту праўду, страшная кампрамітацыя для „братоў", якім неабходна быць і большымі, і старшымі, і культурнейшымі. Адсюль адвечныя шалёныя спробы сьцёрці неяк, закапаць, ці навет утапіць у моры крыві нашую вялікую гістарычную праўду. Адсюль і пасьля — пагромная дэкрэтная тэза, якой чырвоная Масква абвесьціла сьвету, што быццам „Беларусы ў мінулым ніколі ня мелі свае дзяржаўнасьці і толькі вялікая кастрычніцкая... і вялікі рускі..." — усе мы ведаем гэтую прапагандовую маскоўскую кантычку. Таксама разумеем добра паднявольных гісторыкаў савецкай Беларусі, якім часта даводзіцца рэцытаваць гэтую кантычку. Мы ім можам навет прыватна спагадаць — што-ж, чый хлеб ясі, таму й песенькі... — толькі ня можам іх апраўдаць: бо хвалышаваць гісторыю роднага краю ёсьць цяжкім праступкам перад народам.

Скрось доўгія вякі ўдавалася Маскве трымаць нашую праўду ў мяшку, паняволіўшы яе разам із народам. Але час той ужо зышоў. Хоць жудкая няволя ўсё яшчэ лютуе на зямлі нашых продкаў, праўда ўжо вызваленая: прыйшла ёй пара выглянуць на сьвет Божы і ўзьняцца ізноў на вышыні, зь якіх яе сьцягнулі ў яму... Задоўга мы толькі адбіваліся на фроньце праўды, сяньня пара ўжо перайсьці ў атаку. У гэтым духу **непераможнасьці нашае праўды** Беларусы па ўсім сьвеце — у паднявольнай Беларусі і адарваных ад яе частках Смаленшчыны, Беласточчыны, Віленшчыны і Дзьвіншчыны, у ссылках на далёкай Поўначы, у Сібіры і па ўсіх кутках Савецкай Расеі, на эміграцыі ў Амэрыцы паўночнай і паўдзённай, у Аўстраліі, у Заходняй Эўропе ды ўсюды там, куды толькі іх закінула нядоля ці вораг — павінны, дзе толькі магчыма, урачыста і гучна, цэлым шэрагам адмысловых сьвяткаваньняў, імпрэзаў, лекцыяў і т. п., а дзе гэтага нельга правесьці, дык і ў суцішшы адзіночнага размысьленьня, ці прыяцельскай бяседы, аддацца ўсёй душою радаснаму сьвяткаваньню нашага велічнага юбілею — **Тысячагодзьдзя Беларускай Дзяржаўнасьці.**

Арганізаваныя агульныя сьвяткаваньні маюць пачацца ўжо ў наступным 1975 і працягнуцца прынамся да 1980 году. З гэтай мэтай усе нашыя навуковыя ўстановы, нашыя палітычныя, рэлігійныя, грамадзкія, культурна - асьветныя арганізацыі і арганізацыі моладзі павінны ўлучыць у сваю дзейнасьць шырока распрацаваныя праграмы такіх сьвяткаваньняў у лякальным і шырэйшым абсягу. Усе агульныя зьезды і сустрэчы нашай эміграцыі павінны адбывацца пад лёзунгам Беларускага Тысячагодзьдзя. Нашыя гісторыкі, моваведы і археалёгі, за гэтых шэсьць год насьветляць гэтую ўдзячную тэму ў сваіх папулярных і навуковых ар-

**(Заканчэньне побач на 3-й бачыне)**

 

# ЯЗЭП ПУШЧА

### НА 10-Я ЎГОДКІ АД СЬМЕРЦІ

14 верасьня сёлета спаўняюцца 10-я ўгодкі ад сьмерці ў 1964 годзе выдатнага беларускага паэты й мучаніка за беларускую нацыянальную ідэю Язэпа Пушчы.

Язэп Пушча, запраўднае прозьвішча якога Плашчынскі, нарадзіўся 7 травеня 1902 году ў вёсцы Каралішчавічы на Меншчыне ў сялянскай сям'і. Пачаўшы пісаць у 1922 годзе, ён на працягу 20-х гадоў выдаў пяць кніжак сваіх паэтычных твораў: „Раніца рыкае" (1925), „Віта" (1926), „Песьні вясны" (1927), „Песьні на руінах" (1929), „Чырвоны плякат" (1930). Быў ён адным із заснавальнікаў беларускага літаратурна-мастацкага згуртаваньня „Ўзвышша" й, побач з Уладзімерам Дубоўкам, найвыдатнейшым паэтам і лідэрам гэтага згуртаваньня.

І вось на 28-м годзе жыцьця, у самым росквіце сваіх паэтычных сілаў і на парозе сваёй творчай сталасьці, быў Язэп Пушча ў 1930 годзе арыштаваны, як беларускі нацыянальны дэмакрат, і высланы зь Беларусі на Ўрал. На працягу цэлых 26-ёх год найбольш працаздольнага свайго жыцьця быў Язэп Пушча цалком пазбаўлены ўсякіх магчымасьцяў літаратурнай дзейнасьці. Якім-жа зьдзекам гучаць сяньня словы ведамага беларускага літаратурнага крытыка Міхася Яроша ў ягонай, наагул добрай, кнізе 1971 году „Янка Купала і беларуская паэзія", у якой, хіба-ж супраць свайго перакананьня, а зь няўмольнай канечнасьці, прычыну арышту Язэпа Пушчы й іншых беларускіх паэтаў выясьняў гэтак: **„Узмужнеўшая вульгарна-сацыялягічная крытыка травіла многіх паэтаў, абвінавачваючы іх ва ўсіх сьмяротных грахох, нават у варожым стаўленьні да савецкай улады. А гэта прывяло да таго, што некаторыя паэты — У. Дубоўка, Я. Пушча і іншыя, творчасьць якіх таіла ў сабе вельмі пэрспэктыўныя тэндэнцыі, былі пазбаўленыя магчымасьці літаратурнай дзейнасьці".**

Але-ж ня вульгарна-сацыялягічная крытыка на чале зь ліхой славы Лукашом Бэндэм арыштавала й выслала Ўладзімера Дубоўку, Язэпа Пушчу й мноства іншых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў, а партыйныя й дзяржаўныя ўлады Беларусі, якімі й была ўзгадавана гэная вульгарна-сацыялягічная крытыка, як зброя ў змаганьні гэтых уладаў зь беларускай літаратурай.

Спасярод маладых беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў 20-х гадоў, апазыцыйных да савецкае нацыянальнае палітыкі, Язэп Пушча быў апазыцыйным найбольш. У сваіх творах гэнага часу ён бачыў Беларусь укрыжаванай.

*На ростані ўсходня-заходніх дарог*
*Цябе, дарагая, яны ўкрыжавалі. —*

скардзіўся паэта ў сваім вершы 1927 году „На ростані".

*Хто з крыжа краіну расьпятую здыме?*
*Ўзываю, малюся у грэшнай істоце,*

усклікаў ён у іншым сваім вершы 1927 году „Асеньнія песьні". Абодвы гэтыя вершы былі рэакцыяй паэты на 10-я ўгодкі Кастрычніцкай рэвалюцыі, з прычыны якой, як сказаў Пушча ў тым-жа вершы „Асеньнія песьні",

*Беларусь краіна найміцай астатняй, —*
*Ў апранасе рванай днём і ноччу хмарнай.*

Ня менш апазыцыйныя настроі да савецкай рэчаіснасьці выказаў Язэп Пушча ў сваім вершы „Лісты да сабакі". А ў паэме 1928 году „Цень Консула" ў ня вельмі й зашыфраванай форме асэнсаваў ён тагачасную Беларусь, як чужую калёнію.

У выдадзеным у 1964 годзе першым томе акадэмічнае „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", які абыймае 634 старонкі друку й разглядае беларускую савецкую літаратуру даваеннага пэрыяду, творчасьці Язэпа Пушчы прысьвечаныя ўсяго два сказы ў розных месцах кнігі. Уся характарыстыка багатае творчасьці Язэпа Пушчы 20-х гадоў была ў гэных двух сказах зьведзеная да падчыркненьня ў ёй адно **„ўпадніцкіх матываў" і „буржуазнага нацыяналізму".**

Цьвердзіць пра „ўпадніцкія матывы" ў творчасьці Язэпа Пушчы няма абсалютна ніякіх асноваў. Можна казаць пра сумныя й навет пэсымістычныя настроі ў Пушчавай творчасьці, якія, аднак, ніколі не былі безнадзейнымі й упадніцкімі. Пра гэта найлепш сьветчаць наступныя радкі з цытаванага ўжо ягонага вершу 1927 году „Асеньнія песьні", у якіх пра будучыню Беларусі, хоць і ў мэтафарычных вобразах, але вельмі выразна аптымістычна паэта кажа:

*Будзе дзень сьвяточны, дзень другога прыйсьця;*
*Прыйдзе Маці з Сынам, на услоне сядуць . . .*
*Расшумяцца клёны, расшумяцца лісьця, —*
*Будзе сьвяткаваньне песеннае ў садзе.*
*Прыдуць зь песьняй тыя, што сабе ня лгалі,*
*Што сьлязу ранялі на сырым кургане . . .*
*Параходы ў ходзе, падаюць сыгналы,*
*Хвалі размываюць цёс гранітных граняў.*

Апрача гэтага, жыцьцясьцьвярджальнымі аптымістычнымі настроямі вызначаецца й уся прыродаапісальная лірыка Язэпа Пушчы. Нажаль, цэлай гамы іншых пачуцьцяў і матываў, якіх ужо ў ніякім выпадку нельга падцягнуць пад „упадніцкія" й „буржуазна-нацыяналістычныя", аўтары першага тому „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" гэтак і не заўважылі.

Творчасьць Язэпа Пушчы пасьля ягонае рэгабілітацыі ў 1956 годзе была ўзноў вельмі плённай. У 1960 годзе быў выдадзены зборнік ягоных выбраных вершаў і паэмаў, у які, апрача некаторых твораў 20-х гадоў, увайшло й цімала твораў парэгабілітацыйнага часу. А ў 1963 годзе быў выдадзены й зборнік вылучна парэгабілітацыйных вершаў Язэпа Пушчы — „Пачатак легенды". Паэта Сяргей Грахоўскі, што зь Язэпам Пушчам і іншымі паэтамі даўгія гады дзяліў выгнанскую долю, у 1964 годзе ў часапісе „Полымя" пісаў: **„Пачатак легенды" — сьветчаньне мужнасьці, аптымізму, нязгаснай душэўнай сілы й працавітасьці паэта".**

І гэта не зважаючы на зацяжную хваробу Язэпа Пушчы, набытую ў высылцы, з прычыны якой і памёр ён перадчасна на 62-м годзе жыцьця. Ніводзін зь іншых рэгабілітаваных беларускіх паэтаў не патрапіў выявіць у сваіх творах гэткай непахіснай веры сваім ранейшым нацыянальным ідэалам, як Язэп Пушча. У ягоных парэгабілітацыйных творах прагучалі з гэткай-жа, як і раней, моцай беларускія нацыянальныя матывы пры амаль поўнай няўвазе да накіданых згары савецкіх праблемаў. Больш таго, у ягоным вершы 1960 году „Валуны" ў алегарычным вобразе валуноў, што з поўначы спаўзьлі на Беларусь, паэта глыбака асэнсаваў паднявольнае палажэньне Беларусі. Аднак, няволя гэная ня вечная, бо ў вапошнай строфцы вершу паэта верыць, што

*Скалісты ледавік больш не спаўзе сюды —*
*Яго растопіць сонца, высахнуць сьляды,*
*І валуноў гурты ня будуць нас пужаць,*
*Ня будзе камень на грудзях зямлі ляжаць —*
*Раазьмелюць часу жорны,*
*І вецер попел згорне.*

Не зважаючы на ажыўленую творчую актыўнасьць Язэпа Пушчы ў парэгабілітацыйным часе й ягоную паэтычную плённасьць, у выдадзеным у 1966 годзе другім томе „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры", што абыймае паваенны пэрыяд, пра парэгабілітацыйную творчасьць ягоную ня сказана ўжо нічога. Там усяго тры разы названае толькі голае прозьвішча паэты ў пералічэньнях групаў актыўных на вайне паэтаў. Пра сябе самога, сваю будучую долю й сваю ролю, як нацыянальнага паэты, Язэп Пушча вельмі трапна сказаў яшчэ ў 1927 годзе — у вапошніх радкох цытаванага вершу „Асеньнія песьні":

*Услаўлю народ свой я песьняю чулай.*
*Хоць целам павісну на войстрым паркане.*
*Хоць зоры, часамі, і месяц бялявы*
*Іскрыстасьцяй сыплюць на строфы -прыгоршні,*
*Услаўлю ўсё-ж тое, што вартае славы,*
*Прад ім і сьхілюся у дзень свой апошні.*

Прыведзеныя словы, сказаныя паэтам яшчэ ў 1927 годзе, засталіся актуальнымі і ў годзе ягонае сьмерці — 1964-м. Выказаныя ў словах гэтых прадбачаньні поўнасьцяй збыліся, а ўзятаму на сябе заданьню — уславіць народ свой і ўсё тое, што вартае славы, застаўся Язэп Пушча верным аж да свайго апошняга дня.

**Ст. Станкевіч**

---

тыкулах, публікуючы іх у сваёй і чужамоўнай прэсе. Завяршэньнем усіх сьвяткаваньняў, да чаго трэба сыстэматычна рыхтавацца, могуць быць:

1. Агульны зьезд беларускіх навуковых сіл у вольным сьвеце, галоўна гісторыкаў і моваведаў, матэрыялы зь якога маюць быць выдадзеныя асобнай кнігай пабеларуску і ў іншамоўным перакладзе.
2. Агульны Зьезд-Канырэс усей беларускай эміграцыі ў 1980-ым годзе, прысьвечаны Беларускаму Тысячагодзьдзю.

У бязьмерна цяжкіх абставінах няволі і пры наяўным расьцярушаньні нашых людзей па ўсім сьвеце нам трэба праявіць шмат прадбачлівасьці й арганізаванасьці, каб сьвята, што здараецца адно раз на 1000 год, выйшла ў нас пачэсным і плённым.

**П. Вішнеўскі**

[1]) Што, калі ідзе пра дакладнасьць, не адказвае праўдзе. Паводля маск. гісторыка В. Н. Тацішчава, туркі, татары, немцы і арабскія крыніцы ўсю усходнюю Русь, г. зн. пазьнейшую Маскоўшчыну, звалі даўней Белай Русьсю. Так-жа ў Стрыйкоўскага, Гвагніні ды ў самога-ж Тацішчава.

[2]) Гісторыя гэтае зоны вельмі старая. Яшчэ ў другім ст. па Хр. грэцкі географ Пталямэй памяшчаў тут уздоўж Вэнэцкага заліву вялікі народ Вэнэтаў і племя Вэльтаў (Велетаў, Волатаў). Назовы гэтыя славянскія і бальшыня гісторыкаў уважае, што азначалі яны продкаў сяньняшніх Славянаў.

# ПЕРШАЯ СУСЬВЕТНАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ

(Заканчэньне з 1-ае бачыны)

нуўся той ці іншы, каб на плёнцы той дзень астаўся. А неўзабаве царкоўная заля, дзе ўжо даўно запрашальна чакаюць добра застаўленыя ядою сталы, гучыць тым гоманам, дзе ўзвышаецца радасьць вялікае сустрэчы, якой спадарожнічае дыскрэтны цалунак, шчыры ціск сяброўскае рукі, таварыскі шлёп па плячы. Маладыя дзяўчаты прышпільваюць кажнаму на грудзі спэцыяльна выданую для Сустрэчы памятную йстужку.

Абед адчыняе а. Прат. Янка Абабурка малітвай „Ойча наш". Ідзе супольны тост віна за здароўе ўсіх прысутных і за еднасьць усіх нацыянальных сілаў у змаганьні. Тымчасам яшчэ прыходзяць суродзічы, што былі на Божай Службе ў царкве Сьв. Мікалая і напаўняецца прасторная заля. Пасьля абеду сп. Х. Кажаневіч прадстаўляе прысутным пісьменьніка Кастуся Акулу й просіць выслухаць ягоны даклад.

Учора выбраны старшыня КСВБ характарызуе мэты Сустрэчы, падкрэслівае яе агульнанацыянальны характар, згадвае мерапрыёмствы, якімі займаецца новавыбраны камітэт, заклікае ўсіх да актывізацыі беларускай вэтэранскай працы. Асноўная ўвага прысьвячаецца характарыстыцы камплетнай амаральнасьці маскоўскіх акупантаў Беларусі, высокай маральнасьці й адданасьці Беларускаму Народу сяброў беларускіх збройных сілаў падчас апошняе вайны, утварэньню Беларускай Краёвай Абароны. Прысутныя слухалі даклад зь вялікім зацікаўленьнем, колькі разоў падчырквалі сваю згоднасьць з аўтаравымі думкамі бурнымі воплескамі. Сп. Шыркоўскі чытае зьмест прапанаванае рэзалюцыі, якая аднагалосна апрабуецца.

Сустрэчу вітае наш добры прыяцель, сябра Ўправы Англа-Беларускага Таварыства сп. Гай дэ Пікарда. Ангельшчына першая дала прытулак беларускім выгнаньнікам пасьля вайны, кажа сп. Пікарда, і, мусіць, ня прыпадкова беларускія вэтэраны з розных краінаў Вольнага Сьвету выбралі Ангельшчыну для свае гістарычнае Сустрэчы. Для яго й шматлікіх Брытанцаў Беларусы зрабілі гонар і ён жадае гасьцям вялікіх посьпехаў у змаганьні ў будучыні.

Пасьля прыходзяць шматлікія падзякі й беларускі нацыянальны гімн. Беларуская нацыянальная й вайсковыя песьні сьпяваліся перад акадэміяй і пасьля яе. На прапанову сп. Х. Кажаневіча на выданьне новага часапісу сабралі 117 фунтаў і 60 францускіх франкаў.

Аднагалосна ўсе ўдзельнікі Сустрэчы выказвалі думку, што ўся праграма пайшла зь вялікім посьпехам. Ня было груповых дысанансаў. Можна сьмела сказаць тым нашым вэтэранам і суродзічам, што духова былі прысутнымі ў Манчэстары й жадалі, каб Сустрэча прайшла ў атмасфэры шырокай талеранцыі да розных паглядаў, у духу апартыйнасьці, еднасьці мэтаў і добрага, сяброўскага супрацоўніцтва, што якраз так і сталася.

Тыя з нас, якім даводзілася ў розных часох арганізаваць нацыянальныя ўрачыстасьці розных маштабаў, ведаюць, якая гэта нялёгкая праца. Перамогу шматлікіх цяжкасьцяў арганізацыі Сустрэчы і яе посьпех трэба заўдзячваць даўгой і напорнай працы шматлікіх ахвярных людзей. Найбольшыя заслугі, а таму й найбольшыя падзякі належаць нашым сьвятаром ды сябром вэтэранам з Манчэстару й Брадфарду, перадусім актыву зь мясцовых беларускіх клюбаў. Беларускі Клюб у Манчэстары і ў Брадфардзе пакрылі кошты банкетаў, памятнае дошкі, прыгожай дэкарацыі залі й іншыя расходы. Наскрозь была відаць вялікая гасьцінасьць нашых мясцовых суродзічаў. За вялікую й адданую працу для рэалізацыі Сустрэчы найбольшая падзяка належыцца сябром Камітэту Сустрэчы з Манчэстару, а таксама а. прат. Янку Абабурку й ягонай выдатнай матушцы, жанчынам, што рыхтавалі харчы, прыбіралі й дэкаравалі залі, моладзі, што прыйшла на помач.

Зацікаўленым суродзічам варта гэтта падаць да ведама, што зь ініцыятывы сп-ра Я. Калбасы быў запрапанаваны памяткавы сувэнір Сустрэчы. Будзе ён у форме шчыта, на мэталі будзе выбітая Пагоня, ды напіс месца й даты Сустрэчы.

У нядзелю вечарам, ці наступнай раніцы, нашы заакіянскія й бліжэйшыя суродзічы, пакідаючы гасьцінны беларускі Манчэстар, запрашалі мясцовых суродзічаў да сябе ў будучыні, можа на іншыя сустрэчы, а калі гэта немагчыма, жадалі супольнай і найбольшай сустрэчы на вызваленай Бацькаўшчыне. Дай, Божа, каб гэта хутка сталася!

**К. А.**

# БІБЛІЯТЭКІ АМЭРЫКІ ЦІКАВЯЦЦА НАЦЫЯНАЛЬНЫМІ ГРУПАМІ

Ад 7 да 13 ліпеня адбывалася ў Нью Ёрку гадавая канфэрэнцыя Асацыяцыі Амэрыканскіх Бібліятэкараў. У падрыхтоўцы й працы канфэрэнцыі значную ролю адыгрывала ньюёркаўская Гарадзкая Бібліятэка.

Як паведаміў рэдакцыю „Беларуса" др. В. Кіпель, сёлета, як ніколі раней, на канфэрэнцыі падкрэслівалася значэньне ўкамплектаваньня бібліятэкаў матар'яламі пра нацыянальныя групы Амэрыкі. Адным з галоўных прамоўцаў на канфэрэнцыі быў Міхал Новак, шыракаведамы журналісты й навуковец славацкага паходжаньня, аўтар некалькіх кніжак пра этнічныя групы Амэрыкі з апошняй кніжкай „Нерасплыўныя этнічныя групы".

Паводля В. Кіпеля, сумарызуючы праблемы разбудовы калекцыяў беларусікі, бібліятэкары адзначылі такія спэцыяльныя праблемы: адсутнасьць падборачных каталёгаў беларускае кніжкі, малая колькасьць кнігарняў, дзе можна набываць беларускія кніжкі, недахоп матар'ялаў пра Беларусь у ангельскай мове.

Аднак, зьвяа, якая часткава залагоджвае названыя праблемы — гэта разбудова беларускіх калекцыяў шляхом кнігаабмену. Шмат амэрыканскіх бібліятэкаў маюць праграму абмену з Кніжнай Палатай БССР і зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва.

Значнае зацікаўленьне ў бібліятэкараў-славянаведаў мела выстаўка „Самідзату", якая цяпер адбываецца ў ньюёркаўскай Публічнай Бібліятэцы. Як зазначыў др. В. Кіпель, тыя вялікія бібліятэкі зажадалі мець копію „Тэстамэнту" У. Жылкі, а таксама ўсе копіі „Самідзату" Беларусі.

# "І ПОЙДЗЕ КНЯЗЬ ВЯЛІКІ ВІТАЎТ"

Тут пад кожным курганам і каменем
Ці быліна, ці казка чароўная.

**Генадзь Бураўкін**

Навет тагачасны летапісец у сваёй натхнёнай пахвале Вітаўту Вялікаму гэтак трапна ня выслаўляе яго, як найвыдатны беларускі паэта-лаціністы эпохі Адраджэньня Мікола Гусоўскі, калі ў цудоўнай паэме „Песьня пра зубра" піша аб ім:

Ставіў аголены меч свой, як слуп пагранічны,
Перад нашэсьцямі ворагаў з поўдню і ўсходу.
Нават Татарын, пакорліва ўнурыўшы голаў,
Лук свой зламаны яму аддаваў і тлумачыў,
Што, спаганяўшы ясык каля вотчын літоўскіх,
Сам станавіўся пачварнай здабычай Літвінаў.
Быў літасьцівы да тых уладароў, якіх ён
Ставіў на княства са ўласнае згоды. І нават
Грознай Ардзе мог прыцыкнуць: знай меру, Татарын!
Як знакаміты багацьцем і сілай Масковіі землі,
Усё-ж і яны прымірэньня прасілі зь Літвінам.
Турак з Таўрыды заўсёды цюкі падарункаў
Вітаўту слаў, прыхаваўшы свой клопат таемны:
Як-бы задобрыць, улесьціць і гнеў не наклікаць
На галаву сваю з боку Літоўскай дзяржавы.
Тры каршуны, што наводзілі жах на паўсьвету,
Як піскляняты прад ім нават ціўкнуць не сьмелі.

І за гэтым душэўным экскурсам у нашую старадаўнюю мастацкую літаратуру ўспамінаецца мне цяпер лекцыя, якую ў 1922 годзе, у Віцебскім, археалягічным інстытуце, за два гады перад сваёй сьмерцяй, чытаў слаўны Аляксей Сапуноў:

„— Мае сяброве, — гаварыў ён — адным з тых дасьледных заданьняў, якія мы старыя адказваем вам маладым, ёсьць адзначыць на гістарычных картах Альгердаў шлях, вядомы таксама пад назовам Вітаўтавага. Аб ім прыгадвае Сьцяпан Баторы ў сваей знанай грамаце Полацкаму ваяводзе. Ягоны схематычны накід пакінуў нашчадкам годны пашаны Райнгольд Гайдэнштайн.

Нам давялося трапіць на сьлед гэтага шляху. Мы пазналі яго па цяпер зарослых, але ўсё-ж дагэтуль прыкметных прасеках у лясох і пушчах, па адхонных спусках да яраў і ручаёў, па перакопах праз узгоркі й капцы, па рэштках паляў і гацяў на рэках і балотах, па зламаных колах і конскіх касьцяках, па вугальлю ад спаленых хатаў і жаўнерскіх вогнішчаў, па знойдзеных абапал яго шышаках і палашох і нарэшце па прыдарожных адзнаках, выбітых на камянёх, вядомых таму, як — сьледавікі.

Мы ўстанавілі, што гэты шлях ад Полацку йдзе праз задзьвінскія лясы, паўз мызы Рудні, праз раку Вушач, праз маёнтак Бязьдзедзічы, паўз Мядзьведжае возера, проста на Чортаў мост, праз Вахонкаву гару і далей у кірунку да возера Глыбокага. Тымчасам для нас гэтае амаль гіпотэза, але ўсё-ж няма аніякага сумлеву, што ад Глыбокага ён ідзе на Вільню. І калі нам пашанцавала пачаць, хоць не ўдалося скончыць гэтае дасьледваньне, дык вы мусіце нарэшце ўдакладніць увесь Альгердаў, ці Вітаўтавы шлях".

Пасьля гэткага незабытнага запавету выдатнага навукоўца прыгадваюцца й адпаведныя гісарычныя крыніцы. Калі, напрыклад, ведамая „Хроніка Быхаўца" адзначае: „І пойдзе князь вялікі Вітаўт пад гарады пскоўскія — Вяляж і Красны горад", дык пазьней сакратар Сьцяпана Баторага Райнгольд Гайдэнштайн у сваіх „Запісках аб Маскоўскай вайне" сьветчыць: „. . . быў іншы шлях, але па ім можна было йсьці толькі па аднаму. Пасьля Вітаўта, 160 год таму назад, ніхто па ім не праводзіў войска" — і далей дадае — „Урочышча Вярхоўе паблізу Вяляжу й дагэтуль называюць Вітаўтавым мастом, бо, паводля паданьня тут па наведзеным Вітаўтам мосьце Вітаўт перапраўляў сваё войска".

Вядомы археолёг Г. Татур, дасьледваючы ў канцы мінулага стагодзьдзя старадаўнія сухаземныя шляхі, на падставе сваіх знаходжаў

# ДЗЕЛЯ СУПОЛЬНАЕ МЭТЫ

**Артыкул „Дзеля супольнае мэты" старшыні Галоўнае Ўправы Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскае Моладзі сп-чны Раі Станкевіч зьмешчаны ў летнім № 4(34) 1974 г. часапісу „Беларуская Моладзь". Дзеля таго, каб артыкул гэты быў прачытаны й шырэйшымі коламі нашага старэйшага грамадзтва, — а прачытаць яго трэба, — ніжэй перадрукоўваем яго поўнасьцяй. — Рэд.**

* *

Прыйшло лета — прыемна адпачыць для сябровак і сяброў Арганізацыі Беларуска - Амэрыканскае Моладзі пасьля школьнай і грамадзкай працы. Папрацавалі, можна сказаць, нядрэнна, што адлюстроўвае хроніка зь дзейнасьці Аддзелаў АБАМ у часапісе „Беларуская Моладзь". Вось ужо з гэтым летнім нумарам канчаюцца два гады, як нашая арганізацыя аднавіла выданьне маладзежнага часапісу. А выдаваньне яго вымагае шмат працы, шмат часу, шмат руплівасьці й акуратнасьці, шмат самадысцыпліны.

Ня маем права запавольваць нашых высілкаў у працы. Абяцалі-ж мы ў дзень 25 Сакавіка голасна перад тутэйшай аўдыторыяй і таксама замежнай, што будзем працаваць больш выдатна, больш пасьпяхова для супольнае нам усім беларускае нацыянальнае мэты, каб жыла Беларусь.

Аднак часам насоўваюцца думкі й не даюць супакою: ці вывяжэмся з узятага на сябе абавязку й ці здолеем выканаць усё заплянаванае, усе ўжо сябрамі й сяброўкамі падрыхтаваныя праекты, якія маюць быць абмеркаваныя хутка на нашым працоўным паседжаньні Галоўнае Ўправы АБАМ.

А плянаў у нас шмат. Вось, прыкладам, нашая арганізацыя пляную адзначыць 25-я ўгодкі АБАМ (ЗБМА) у 1975 годзе. І ня толькі ўрачыста адсьвяткаваць, а й выдаць друкам з гэтае нагоды кнігу пра арганізацыю моладзі й ейную дзейнасьць.

Плянуем таксама прыняць як найактыўнейшы ўдзел у сьвяткаваньні 200-годзьдзя Задзіночаных Штатаў Амэрыкі й аб'яжджаць падчас гэтага сьвяткаваньня шмат якія мясцовасьці Амэрыкі з нашым нацыянальным фальклёрным багацьцем: народным танцам, песьняй і вырабамі народнага мастацтва.

Хоціць гэтых двух прыкладаў, каб паказаць, што мы паважна бяром сваё абяцаньне.. Ляжыць перад намі цяжкая й дакучлівая праца здабываць патрэбныя фінансавыя рэсурсы, ладзіць вечарыны, лятарэі, нешта прадаваць, прасіць дапамогі. Мы з прыемнасьцяй прыгадваем нашых сталых прыхільнікаў, якія заўсёды стараліся падтрымаць праяўленую моладзяй ініцыятыву. Мы таксама ўдзячныя й тым, што прыхільна да нас ставяцца й бачаць пазытыўны ўплыў дзейнасьці нашае маладзежнае арганізацыі й на малодшых дзяцей і асабліва на расьцярушаную ў вольным сьвеце й незарганізаваную яшчэ беларускую моладзь.

Бязумоўна, мы рады з добрае думкі пра нас. Але ёсьць у нас і сумлевы — закрадаюцца яны ў думкі й балюча непакояць. Я добра памятаю, як Аддзел АБАМ у Нью Джэрзі ў красавіку 1973 году ладзіў вечарыну, каб прыдбаць гэтак патрэбныя для працы арганізацыі грошы. Сяброўкі й сябры арганізацыі вельмі шмат уклалі працы ў падрыхтоўку вечарыны, прыгатавалі багатую вячэру, удэкаравалі залю, а беларускае грамадзтва Нью Брансьвіку не падтрымала моладзі — вечарына прынесла дэфіцыту 300 даляраў.

Прыпамінаецца таксама й вечарына моладзі Аддзелу АБАМ у Нью Ёрку ў травені 1973 году таксама дэфіцытная, хоць і ня ў гэтакай ступені, як у Нью Джэрзі. І гэта не зважаючы на тое, што амаль усе прадукты для буфэту ахвяравалі бацькі сяброваў і сяброў арганізацыі. У выніку гэткіх няўдачаў прыходзіць зьнеахвочаньне, а навет як-бы крыўда. А моладзь нашая ахвярная. Яна таксама дае свае, хоць часам і сьціплыя ахвяры на наш часапіс, ня фігуруюць у нашых касавых кнігах ні выдаткі на замясцовыя тэлефоны, ні на транспарт, а езьдзім-жа часта з рознымі мастацкімі выступленьнямі й на зьезды. Дык калі не аплачваецца нам ладзіць дэфіцытныя імпрэзы й банкеты, дык як-жа нам быць?

Мы ведаем, што ўсе Беларусы, гэтак як і ўсе іншыя Амэрыканцы, даюць шмат розных ахвяраў на ўсякія харытатыўныя арганізацыі, на апеку над хворымі дзецьмі й галадуючымі, і гэта вельмі добра пра нас сьветчыць. Але нам усё-ж здаецца, што на сьпісе паміж гэтымі патрэбнымі ахвярамі, недзе, хоць і на самым канцы, маглі-б быць і мы — беларуская моладзь, будучыня нашае эміграцыі. І нам вельмі прыкра, калі мы стараемся прадаць нейкі білет на вечарыну ці на банкет, а чуем у вадказ: „Купім білет, калі прыйдзем", і не зьяўляюцца на вечарыну, або „нам ужо не да танцаў" ці „гэтыя паштоўкі няпрыгожыя, бо не каляровыя". А мы-ж так старанна іх выбіралі, гэтак высака іх ацанілі з мастацкага гледзішча!

Трэба нам абавязкава перагледзець дачыненьні да моладзі нашага старэйшага грамадзтва і моладзі да старэйшага грамадзтва ды шукаць рупліва й знайсьці супольную мову дзеля супольнае мэты. Бо ня толькі бацькі й настаўнікі ўзгадоўваюць моладзь на вартасных і сьведамых Беларусаў, але і ўсё грамадзтва, беларускія асяродкі вакол сваіх цэркваў, беларускія арганізацыі. Трэба нам толькі ўсім уцяміць, што без маральнага й матарыяльнага падтрыманьня нашага грамадзтва можа прыйсьці занапад, рэгрэс у дзейнасьці моладзі, на што мы — беларуская эміграцыя ніяк ня можам сабе дазволіць.

Моладзь мае расьці ў сваёй грамадзкай працы, ісьці наперад у сваім самаўсьведамленьні, у рэпрэзэнтацыі Беларусі навонкі, а галоўнае ў працы над сабой, у працы ў арганізацыях, бо сябры маладзежнае арганізацыі, у будучыні — сябры іншых арганізацыяў, як БАЗА й іншыя. Ёсьць, праўда, шмат тых, што ўсё гэта вельмі добра разумеюць, ёсьць шмат прыяцеляў моладзі (як ня дзіўна, іх больш за акіянамі, чымся ў сваіх тутэйшых асяродках). Мы хочам прыдбаць іх больш. Хочам заслужыць на Вашае падтрыманьне, Паважаныя Суродзічы. Нам няможна зьнеахвочвацца няўдачамі. Мы хочам жыць надзеяй на лепшае, бо мы моладзь і Вы — нашае старэйшае грамадзтва працуем для тае-ж супольнае мэты: на карысьць нашае паняволенае Беларусі.

**Рая Станкевіч**

### БЕЛАРУСЫ Ў КІРАЎНІЦТВЕ РЭСПУБЛІКАНСКАЙ РАДЫ НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЯЎ У ЛЁС АНДЖЭЛЕСЕ

24 ліпеня сёлета адбыўся агульны сход Рэспубліканскай Рады Нацыянальнасьцяў (Спадчынных Групаў) гораду Лёс Анджэлесу, на якім адбыліся перавыбары Выканальнага Камітэту й Рады Дырэктароў. За прэзыдэнта Рады выбраны Мікалай Мэдвід (Украінец), за аднаго із віцэ-прэзыдэнтаў Беларус сп. Часлаў Найдзюк. Другі Беларус сп. Язэп Арцюх выбраны адным із сяброў Рады Дырэктароў.

### Сьвятой Памяці а. Уладыслаў Салавей

Да нас дайшла сумная вестка, што 17 жніўня сёлета ў аўтамабільнай катастрофе каля Ульму ў Заходняй Нямеччыне загінуў ведамы беларускі каталіцкі сьвятар — Мітрафорны Пратаярэй Уладыслаў Салавей. Паховіны адбыліся 21 жніўня.

Сьв. пам. а. Уладыслаў Салавей нарадзіўся 15 верасьня 1913 г. у Пецярбурзе. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі, пасьля ў Нямеччыне, дзе й быў высьвечаны на сьвятара ў 1946 годзе. Сьв. пам. а. Уладыслаў Салавей часта наведваў Беларусаў у Мюнхэне, Розэнгайме й іншых гарадох Нямеччыны й адпраўляў для іх Божыя Службы.

Вечная Яму памяць!

**СЬВЯТОЙ**  **ПАМЯЦІ**

**СЯРГЕЙ ЭМІЛЬЯНЧЫК**

**народжаны 24 верасьня 1922 году ў вёсцы Жарабілавічы Баранавіцкага павету, моладасьць правёў у Збройным Змаганьні за Вольную Беларусь, выгнаны з Бацькаўшчыны, пасяліўся ў Францыі, адыйшоў ад нас на вечны супачынак 3 верасьня 1974 году, пакінуўшы жонку й трое дзяцей, і пахаваны на магільніку Нэнвіл ле Рош, пра што зь вялікім сумам паведамляюць**

**ЖОНКА Й ДЗЕЦІ ЗЬ СЯМ'ЁЮ**

**Хай будзе Яму лёгкай француская зямля й вечная памяць сярод жывых!**

## ПАМЁР СТАСЬ МЯДОЎСКІ

31 ліпеня сёлета даляцела ў ЗША сумная вестка пра сьмерць сьв. пам. Станіслава Мядоўскага ў верасьні 1973 году ў Польшчы. Станіслаў Мядоўскі, пляменьнік ведамага беларускага каталіцкага сьвятара Праньціша Чарняўскага, нарадзіўся ў вёсцы Чухнах каля Крэва на Беларусі. Вярнуўшыся ў 1956 годзе зь дзесяцігадовай высылкі ў Сібір, ён пераехаў на сталае жыцьцё й працу ў Гданск, дзе й памёр, асіраціўшы свайго жанатага ўжо сына.

Перад вайною ён скончыў Віленскую Беларускую гімназію ў 1935 годзе. Студыяваў мэдыцыну на Віленскім Унівэрсытэце й належаў да Беларускага Студэнцкага Саюзу. Быў актыўным беларускім незалежнікам. Сібірская высылка гэтак моцна зруйнавала ягонае здароўе, што яму было ўжо цяжка вярнуцца да нармальнага стану й належнага зразуменьня сучасных яму дачыненьняў у сьвеце. Свайму гімназыяльнаму аднаклясьніку, што жыве ў ЗША, у лісьце з 4 верасьня 1962 г. пісаў: „Вашага жыцьця, а так-жа Вашай мэнтальнасьці мы тут зразумець ня ў стане". Стары знаёмы, пасьля спатканьня зь ім, напісаў у лісьце з 23 сакавіка 1961 г., што Стась Мядоўскі ўжо тады „прадстаўляў сабою поўную руіну".

Гэта адзін із зыркіх прыкладаў, як бальшавікі патрапілі нішчыць фізычна й духова беларускіх патрыётаў. Няхай гэтыя ўспаміны спрычыняцца да поўнага разьбіцьця ўсялякіх ілюзыяў і сумлеваў, што камуністыя быццам не баяцца й не змагаюцца зь беларускім патрыятызмам. Веру й надзеюся, што час і падзеі выраўнуюць крыўды, робленыя Беларусам, і што іхныя крыўдзіцелі панясуць заслужаныя імі вынікі іхнай праступнай дзейнасьці.

Няхай цяжкі жыцьцёвы шлях сьв. пам. Станіслава Мядоўскага застанецца ў памяці Беларусаў добрым напамінам пра неабходнасьць перамогі справядлівасьці над насільлем.

**Ч. Найдзюк**

## СЬВ. ПАМ. МАТУШКА МАРТА

8-га жніўня сёлета неспадзявана адыйшла на вечны супачынак на 62-м годзе жыцьця сьв. пам Матушка Марта, жыцьцёвая спадарожніца мітр. прат. а. Міхаіла Шчуркі, які закончыў свой жыцьцёвы шлях амаль два гады таму.

Матушка Марта была вялікай ахвярнасьці чалавекам. У першыя гады жыцьцё эмігрантаў у Аўстраліі было ня лёгкае, а. Міхаіл меў васьмёра дзяцей — пяць дачок і трох сыноў. Але мы ніколі ня чулі ад яе ніякай жальбы на сваю долю. А некаторы час яна яшчэ й апякавалася Архіяпіскапам Сяргеем, які жыў у Адэляйдзе. Узгадавала сыноў і дачок і ўжо мела прыемнасьць бачыць у царкве ўнукаў і ўнучак, якія прывучаюцца пяяць у царкоўным хоры. І раптам няўмольная сьмерць. Сум агарнуў ня толькі ейную вялікую сям'ю, а й многіх Беларусаў і ня-Беларусаў у Адэляйдзе.

10-га жніўня была адпраўленая заўпакойная літургія й абрад пахавінаў, выкананы а. Георгам пры ўдзеле вялікай колькасьці прыяцеляў, знаёмых і радні. Хор пяяў пад кіраўніцтвам сп. Бурноса. Пахавалі Матушку на магільніку Чэнтэльгэм побач з а. Міхаілам. Пасьля пахавінаў традыцыйны абед адбыўся ў хаце Нябожчыцы.

Хай будзе Табе, Дарагая Матушка, пухам зямелька аўстралійская. Вечная памяць!

**П. Трысмакоў**

## СЬВ. ПАМ. МІХАСЬ БРАЗОЎСКІ

Нечакана на ўдар сэрца 2 ліпеня 1974 г. у Беларускім Адпачынковым Цэнтры Бэлейр-Менск, Глен Спэй, Нью Ёрк, памёр сьв. пам. Міхась Бразоўскі.

Міхась Бразоўскі нарадзіўся 2 ліпеня 1918 г. у мяшчанскай сям'і ў Давід Гарадку на Палесьсі. Жыцьцё ягонае сям'і й яго самога на Беларусі было падобнае кажнаму Беларусу пад Польшчай. У часе нямецкае акупацыі ён займаў становішча кіраўніка Пажарнае Аховы ў Давід Гарадку. Пасьля гэтага наступіла эміграцыя, прабываньне ў Нямеччыне, пазьней пераезд у Амэрыку. У Амэрыцы ён пасьпяхова закончыў студыі ў Прат Інстытуце й атрымаў ступень інжынера.

Нябожчык быў вельмі прадпрыемлівым чалавекам, патрапіў разбудаваць собскія прадпрыемствы, якія забясьпечылі яму выгаднае жыцьцё. Быў ён вельмі рэлігійным чалавекам, выконваў усе законы Праваслаўнае Царквы, быў спагадлівым, нікому не адмаўляў дапамогі, ветлівым і папулярным сярод моладзі, а перадусім быў шчырым Беларусам.

Ён быў актыўным сябрам прыходу сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, сябрам Беларуска-Амэрыканскага Аб'яднаньня ў Нью Ёрку й сябрам Задзіночаньня Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў. Міхась Бразоўскі быў галоўным архітэктам і будаўніком новае беларускае праваслаўнае царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рычмонд Гіл, Нью Ёрк. Пад ягоным кіраўніцтвам, як старшыні Камітэту пабудовы гэтае царквы, былі зробленыя пляны, вонкавы й нутраны архітэктурны выгляд царкоўнага будынку, а пазьней яна й будавалася ім самім з усімі сябрамі прыходу. На працягу 5-х гадоў будовы царквы ён паказаў веданьне й глыбокае дазнаньне, асабліва ў беларуска-царкоўным будаўніцтве. У справу пабудовы ён укладаў усю сваю душу й сілы, каб афармленьне й мастацкае выкананьне царквы было ў духу й стылю чыста беларускім.

Міхась Бразоўскі пакінуў у глыбокім суме сястру Надзю Дымік. Якраз ягоная сястра загадала пахаваць нябожчыка на расейскім магільніку. Яна не дазволіла прывезьці цела нябожчыка ў царкву, якую ён пабудаваў і моцна любіў, каб зь яе адправіць на вечны супакой. Гэтым яна пазбавіла магчымасьці ўсім ягоным сябром, прыяцелям і суседзям, якіх ён меў вельмі шмат, апошні раз зь ім разьвітацца.

Ён быў добрым чалавекам і напоўна выбачыць ёй за гэтую вялікую крыўду, а мы ўсе аддаём пашану, якая належыцца яму, як будаўніку, працаўніку й сыну Беларусі. Памяць аб ім будзе жыць у сэрцах тых, хто прыйдзе, гляне, наведае або памоліцца ў новай прыгожай Беларускай Праваслаўнай Царкве сьв. Кірылы Тураўскага, пабудаванай Міхасём Бразоўскім.

Вечная Табе памяць, Дарагі Сябра! **Кастусь Мерляк**

## Падзяка

**З прычыны перадчаснае сьмерці нашага дарагога мужа, бацькі, сына, брата, швагра й дзевяра Сьв. Пам. Аляксандра Стагановіча Малодшага выказваем нашую шчырую падзяку прат. а. Васілю, а. Аляксандру, а. Карпу, матушкам, Беларускім Вэтэранам ды ўсім, хто склаў кветкі, выказаў спачуваньні ды сваёй прысутнасьцяй на паховінах аддаў пашану Нябожчыку.**

**Сям'я Стагановічаў**

---

сьцьвярджае: „Вітаўт праходзіў па гэтых дарогах, што існуюць здаўных-здаўна", а яшчэ за 30 год перад Татурам архэалёг М. Кусьцінскі ў „Виленским Вестнику" за 1866 год называе Альгердаў шлях Вітаўтавай дарогай. І нарэшце Л. Аляксееў у сваёй манаграфіі „Полацкая Зямля" (Масква. 1966 г.) піша: „Народная традыцыя ўпарта лучыць гэтую дарогу зь Вітаўтам, што зусім магчыма, бо, як вядома, у канцы 14-га стагодзьдзя гэты князь хадзіў зь Вільні (пэўне гэтым маршрутам) да Воршы на Сьвідрыгайлу".

Імя вялікага князя Вітаўта, які амаль усё сваё жыцьцё правёў у баявых паходах, перахавалася шмат у якіх нашых геаграфічных назовах ды гістарычных помніках. Пад Вяліжам дагэтуль, апрача Вітаўтавага мосту, існуе й назоў Вітаўтава гара. На Беларусі вядомыя таксама да нашых дзён — Вітаўтавы гаці, Вітаўтавы грэблі, Вітаўтавы броды, Вітаўтавы лазьні і гэтак далей. Вялікая вёска Лошніца на Барысаўшчыне, як падае ў сваім „Падарожжы па Палесьсю й Беларускаму краю" (СПБ. 1865 г.) этнограф П. Шпілеўскі, дастала сваё ймя ў канцы 14-га стагодзьдзя, калі драбы, або тагачасныя беларускія пяхотнікі, выкапалі пячору, абклалі яе ўнутры зубравымі скурамі і гэткім чынам пабудавалі князю Вітаўту ложак.

І хоць зь цягам часу вёска Лошніца крыху зьіначыла сваё найменьне, але тутэйшая рэчка й цяпер называецца Ложа, а паблізу ад недалёкае адсюль вёскі Масалаі ёсьць выкладзены пасівелым ад моху каменем Вітаўтавы калодзеж. Цяжка навет пералічыць усё тое, у чым адбіўся няспынны князь Вітаўт Вялікі, пра што прыгожа згадаў у баладзе пра Беларусь сучасны паэта Аляксей Зарыцкі:

І колькі Вітавых магіл
І замкаў каралевы Боны.

Давялося мне з артыкулу Генадзя Лалеўскага „Сьледавікі", зьмешчанага ў „Чырвонай зьмене" яшчэ ад 1-га кастрычніку 1969 г., дазнацца, што: „У Лепельскім раёне **былі** два камені, якія называліся „Вітаўтавы талеркі" і „Вітаўтавы відэльцы". Сумна, калі, паводля гэтае шчырае заявы, яны ўжо ня існуюць, як пацьвярджае й Г. Штыхаў у падрабязнай „Археалягічнай карце Беларусі" (Менск. 1971 г.), дзе няма аб іх аніякага прыпаміну.

Між тым у пачатку 30-х гадоў абодва тыя асабіста мне знаёмыя камені былі, пакуль варожыя да культурнае спадчыны беларускага народу рукі іх ня здрушчылі, скарыстаўшы, магчыма, для бруку. Прыкра, бо яны зьяўляліся ня проста камлыгамі звычайнага граніту, што калісьці прыцягнуў сюды з поўначы ледавік, а каштоўнымі помнікамі, у назовах якіх сам народ засьветчыў пашану да мінулага свае краіны ды да ейнага колішняга славутага правадыра.

Камень „Вітаўтавы талеркі" знаходзіўся на беразе маляўнічага возера Варанеч. Ён быў круглы й меў увышкі 54, а ў акружыньні 213 сантымэтраў. На ягонай ройнай, нібы стол паверхні дыямэтрам у 70 сантымэтраў было шэсьць штучных паглыбленьняў, падобных на талеркі ці міскі. Кажуць, што ў 1426-м годзе князь Вітаўт палуднаваў на ім, здабываючы тады замак Варанеч. У 1844 годзе гэты камень зваліўся ў возера, скуль яго выцягнулі й перавезьлі ў маёнтак Варанеч. А камень „Вітаўтавы відэльцы" з вычасанымі на ім знакамі, што нагадваюць відэльцы, ляжаў на беразе ракі Вушачы, праз якую якраз тут праходзіла Вітаўтава дарога.

Кагадзе прыгаданы Генадзь Лалеўскі ў тым-жа артыкуле „Сьледавікі" гэтак тлумачыць сваім спадарожнікам старадаўні адбітак на адным з угледжаных ім знамянальных камянёў: „Бачыце абведзены круг, у ім жывёліна, відаць, конь, яздок з узьнятай рукой — такая была пячатка палачанаў". І мімаволі хочацца ў яго запытацца: — А хіба гэта была толькі звычайная пячатка для пацьверджаньня дакумэнтаў, а не славутая дзяржаўная эмблема нашых продкаў, пра якую, пэўне, там цяпер ня можна ў голас згадаць? Між тым менавіта аб ёй у сваім вядомым патрыятычным вершы гаворыць Максім Багдановіч, завяршаючы яго палкімі радкамі:

Срэбнай збруяй далёка грымяць.
Старадаўнай Літоўскай Пагоні
Ні разьбіць, ні спыніць ,ні стрымаць!

І хай сабе эзопавай моваі, але таксама аб ёй піша ў сваім прачулым вершы Сяргей Панізьнік:

Хамутоў ня знаюць коні продкаў
На гэрбах прыдзьвінскае зямлі!

**Юрка Віцьбіч**

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ У НЬЮ ГЭМПШЫР



Рая Станкевіч чытае даклад

Сёлета мне давялося быць запрошанай Амэрыканскай Кансэрватыўнай Уніяй штату Нью Гэмпшыр мець даклад на сьвяткаваньні Тыдня Паняволеных Народаў у гэтым штаце. Урачыстасьць адбылася 22 ліпеня ў горадзе Ашлэнд. Я згадзілася, бо ведала, што гэтая ўрачыстасьць будзе адбывацца на магільніку, на якім з прыватнай ініцыятывы аднаго Амэрыканца пастаўленыя крыжы для кажнага паняволенага камунізмам народу з адпаведнымі напісамі. Калі першы раз я пра гэта пачула, я ня верыла, што й для паняволенай Беларусі стаіць там крыж з напісам назову нашае бацькаўшчыны. І на собскія вочы я пабачыла, што на могільніку стаіць 27 крыжоў, у тым ліку й крыж з напісам у ангельскай мове „Беларусь".

Урачысты сход адбываўся на прыгожай зялёнай паляне, на якой былі расстаўленыя крэслы для прысутных. Мілай для мяне неспадзеўкай было тое, што да мяне падвялі прыбылых з блізкага гарадка Беларусаў сп. Уладзімера Лукашэвіча з жонкай і сп-ню Лысюк (маці ведамага нам Беларуса зь Нью Брансьвіку Аўгена Лысюка). Яны вычыталі ў мясцовай газэце пра гэтую ўрачыстасьць і прачыталі там маё прозьвішча, як дакладчыка. Дапыталіся, а дзе-ж беларуская маладзежная танцавальная група, якую хацелася ім пабачыць.

Урачыстасьць пачалася а 2-ой гадзіне дня малітвай за Амэрыку й за Паняволеныя Народы. З прывітаньнямі й прамовамі выступалі прадстаўнікі штатавага ўраду, гарадзкіх уладаў і прадстаўнікі паняволеных народаў. Ад Беларусаў вельмі прыгожа выступіў сп. Уладзімер Лукашэвіч. Ён сказаў, што Амэрыканцы ня бачаць нас, паняволеных Масквой народаў, а мы ўсё чакаем з году на год зразуменьня нашае крыўды. Таксама мела прывітальную прамову сп-ня Зіна Станкевіч. Яна расказала пра перасьледаваньні ў падсавецкай Беларусі нацыянальнай інтэлігенцыі й наагул пра зьдзекі над нашым народам дый пра тое, як народ стараецца выжыць і перахаваць сваю нацыянальную апрычонасьць. Выступалі з прывітальнымі прамовамі прадстаўнікі ад Латвіі й Кубы.

Галоўны даклад прачытала я. Мяне прадставіла ведамая амэрыканская кансэрватыўная дзеячка сп-ня Луэла Бол. Тыдзень Паняволеных Народаў сьвяткуецца тут ад 1962 году, і сп-ня Луэла Бол сталася адказнай за гэтае сьвяткаваньне ў штаце Нью Гэмпшыр. Яна й вяла праграму. Прадстаўляючы мяне, яна сама расказвала пра Беларусь і беларускі народ, пра ягоную слаўную мінуўшчыну й змаганьне за незалежнасьць. Успомніла й пра Слуцкае Паўстаньне (усе гэтыя весткі яна вычытала з маладзежнага часапісу „Беларуская Моладзь", які ёй пасылаецца й якім яна шчыра захапляецца).

Мой даклад трываў прыблізна паўгадзіны. У ім было дастаткова вестак пра змаганьне нашага народу ў вабароне свае нацыянальнае апрычонасьці й роднае мовы, пра тое, як жорстка мучыць „старэйшы брат" нас, першы паняволены народ. Была выказаная надзея на Амэрыку й Амэрыканцаў, якія, хоць і ня могуць сабе ўявіць, што значыць быць паняволеным народам, але нам цікавяцца й хочуць нам памагчы, калі не бальшыня, дык хоць некаторыя. Яны, як і мы, жывуць надзеяй, што й мы будзем незалежнымі. Гэтую надзею сымбалізаваў запалены на пачатку ўрачыстасьці зьніч, што шугаў полымем уверх.

Пасьля ўсіх выступленьняў падыйшлі да могільніку, дзе быў пакладзены вянок кветак. Як-жа выглядае гэты могільнік? На зялёным траўніку, частцы маемасьці сп. Дхорджа Обэра, стаіць 27 крыжоў, на кажным зь іх напісы назоваў паасобных паняволеных народаў. Усе крыжы, абгароджаныя калючым дротам, сымбалізуюць няволю (канцэнтрацыйны лягер). За крыжамі стаіць вартаўнічая вышка, як і ў канцэнтрацыйным лягеры, на якой намаляваны салдат зь вінтоўкай. На вышцы намаляваны чырвоны серп і молат. З другога боку стаіць плякат, на якім напісана:

Wake up America or
This will be our fate —
Live Free or Die!

А вось і гісторыя паўстаньня гэтага могільніку. У 1963 годзе ў Дзень Незалежнасьці Амэрыкі 4-га ліпеня сп. Джордж Обэр сваімі рукамі зрыхтаваў з дрэва вялікі рыдван на колах грузавога аўтамабіля, уставіў на ім усе 27 крыжоў і ехаў у сьвяточным парадзе. За гэта атрымаў ён узнагароды й мэдаль за патрыятызм. Гэтым ён хацеў пераканаць Амэрыканцаў, што сьвет ня мае права забывацца пра нядолю паняволеных народаў. Пасьля параду ён паставіў гэтыя крыжы на сваёй маёмасьці, што знаходзіцца ў горадзе Ашлэнд пры рухлівай дарозе. Гэтак і паўстаў гэты могільнік, які ад 1963 году й зьяўляецца месцам адзначэньня Тыдня Паняволеных Народаў у штаце Нью Гэмпшыр.




Фрагмэнт могільніка

Мне расказваў сп. Обэр, што могільнік разбуралі два разы. Першы раз у 1968 г. няведамая й не амэрыканскай маркі машына ўехала на могільнік і паламала крыжы. У 1970 г. узноў былі паламаныя няведамымі людзьмі шматлікія крыжы. Але сп. Обэр ужо зьвякся з гэтым і іх узноў адбудаваў. Былі й ёсьць павешаныя нацыянальныя сьцяжкі кажнага з паняволеных народаў, у тым ліку й бел-чырвона-белы наш беларускі сьцяжок. Іх таксама кралі й нішчылі, але й гэта ня турбавала сп. Обэра, бо знайшлася жанчына, што зрыхтоўвае новыя сьцяжкі. Апошнім часам усё-ж ён перахоўвае гэтыя сьцяжкі ў сваёй хаце, а вывешвае толькі ў вадпаведныя дні.

У сьвяткаваньнях Тыдня Паняволеных Народаў у Нью Гэмпшыр прыймалі ўдзел выдатныя Амэрыканцы: сэнатары, кангрэсмэны, губэрнатар штату, прадстаўнікі мясцовых уладаў, а таксама прадстаўнікі паняволеных народаў: Кубінцы, Палякі, Латышы, Лятувісы, Украінцы й іншыя, а таксама й мы Беларусы. Два разы раней (у 1965 і 1967 гг.) галоўным прамоўцам быў Беларус прафэсар Унівэрсытэту ў Прынцтоне Рыжы-Рыскі. І вось сёлета. У пяці газэтах штату Нью Гэмпшыр былі зьмешчаныя справаздачы й фотаздымкі з гэтае ўрачыстасьці і ўсюды моцна было падчыркнута, што Беларусы прыймалі ў ёй асабліва актыўны ўдзел. Былі пералічаныя прозьвішчы ўсіх беларускіх прамоўцаў.

Будучы там, мне давялося пазнаёміцца й гутарыць із шмат якімі Амэрыканцамі, што зьяўляюцца шчырымі прыяцелямі паняволеных народаў. І асабліва было прыемна, што ня трэба было ім выясьняць, што мы Беларусы — не Расейцы. О, яны ўжо гэта дасканала ведалі. Можа гэта таму, што былі там вядучыя прадстаўнікі амэрыканскіх кансэрватыўных арганізацыяў. Была ў вялікай колькасьці й моладзь, студэнты з гэтага й суседніх гарадоў штату. Яны прыбылі, каб спрычыніцца да найбольш удалага сьвяткаваньня Тыдня Паняволеных Народаў і каб ад беспасярэдніх сьветкаў паняволеных народаў пачуць пра запраўднае аблічча камунізму.

Магільнік гэты адведваюць і адмысловыя экскурсіі школаў і каледжаў. Дай Бог, каб у выніку гэтага сумленьне Амэрыканцаў абудзілася, а мы, што жадаем іхнага падтрыманьня ў нашай нацыянальнай нядолі, сталіся лепш заўважанымі. Усе зычылі пабачыць нас узноў на тым самым месцы Джорджа Обэра, выдатнага амэрыканскага патрыёта й вялікага прыяцеля беларускага й іншых паняволеных народаў.

**Раіса Станкевіч**

# ПОМНІК КСЯНДЗУ АДАМУ СТАНКЕВІЧУ




Ведамы беларускі грамадзкі, палітычны й рэлігійны дзеяч Ксёндз Адам Станкевіч, што ў часе нямецкай акупацыі жыў у Вільні, зь нянавісьці да нямецкага фашызму не праявіў найменшага, хоць-бы адно тактычнага й чыста фармальнага супрацоўніцтва з акупантамі й пры набліжэньні савецкае арміі ў 1944 годзе не падаўся на захад. Не зважаючы на гэта, пасьля заняцьця савецкай арміяй Вільні быў ён савецкімі органамі бясьпечнасьці арыштаваны, як „вораг народу", і высланы ў канцэнтрацыйны лягер у Сібіры. Там ён і памёр у 1949 годзе.

І вось летась у жніўні беларускія патрыёты паставілі на магіле ягонае маці, Антолі Станкевічыхі, на магільніку ў роднай ягонай вёсцы Арлянатах, б. Крэўскае воласьці Ашмянскага павету (цяпер Смаргонскага раёну Гарадзенскай вобласьці) помнік, які бачым на вышэй зьмешчаным фотаздымку. Гэтую вестку й фотаздымку мы нядаўна атрымалі ў ананімным лісьце з Польшчы.

# ТРАКТАР "БЕЛАРУСЬ" У АМЭРЫЦЫ

Амэрыканскі тыднёвы часапіс „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт", у сваім апошнім нумары, датаваным 17. VI. 1974 г., прысьвяціў бачыну з трыма фатаграфіямі савецкаму трактару „Беларусь", што прадаецца цяпер у Задзіночаных Штатах. Пра трактар „Беларусь" апошнім часам пісалі й іншыя амэрыканскія органы друку, у тым ліку газэта „Нью Ёрк Таймс", а таксама паведамлялі радыё й тэлебачаньне.

Продаж трактароў „Беларусь" у Задзіночаных Штатах пачаўся адно сёлета. Часапіс „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт" адзначае, што тымчасам іх прададзена ўсяго дзесяткаў два. Але імпартная кампанія „Сатра", што знаходзіцца ў Нью Ёрку, спадзяецца прадаць сёлета найменш семсот трактароў „Беларусь". А ў 1975 годзе лік гэты спадзяюцца падняць да чатырох тысячаў. Часапіс „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт" піша таксама, што за трактарам „Беларусь" Савецкі Саюз пляное пачаць экспарт у Амэрыку машынаў збору бавоўны і рысавых камбайнаў. Тымчасам, аднак, трактар „Беларусь" павінен пераканаць амэрыканскіх фармэраў, што савецкія машыны добрае якасьці ды што савецкая прамысловасьць справіцца з забясьпечваньнем іх запаснымі часткамі.

Трактар „Беларусь", паводля часапісу „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт", адзначаецца неблагімі канкурэнцыйнымі здольнасьцямі: ён на працэнтаў дзесяць танейшы за амэрыканскія трактары падобных мадэляў і на яго ня трэба месяцамі чакаць, як на трактар амэрыканскае вытворчасьці. Трактар „Беларусь", між іншага, дастаў добрую ацэнку ад прэстыжовае Выпрабавальнае Лябараторыі Нэбраскаўскага ўнівэрсытэту. Кіраўнік гэтае лябараторыі праф. Лестэр Лярсэн сказаў прадстаўніку часапісу „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт": „Выпрабаваны намі трактар ‚Беларусь' сваймі якасьцямі стаіць даволі высока ў параўнаньні з амэрыканскімі мадэлямі такога-ж тыпу ў сэньсе спажываньня паліва й агульнае спраўнасьці".

Часапіс „Ю Эс Ньюз энд Ўорлд Рыпорт" адзначае, што ўдала наладжаны продаж трактароў „Беларусь" дапаможа Савецкаму Саюзу зьменшыць дэфіцыт сваіх фінансавых разьлікаў з Амэрыкай. Дэфіцыт летась, прыкладам, вымяраўся сумай адзін міліярд даляраў у карысьць Амэрыкі. Далейшы продаж у Амэрыцы трактароў „Беларусь", як шмат хто зусім правільна адзначае, будзе ў вялікай меры залежыць ад таго, як спраўна будуць пастачацца ў Амэрыку запасныя часткі да гэтых трактароў.

# ПАД НЕБАМ ПАЎДЗЁННАГА КРЫЖУ

## (СЯБРОЎСКІЯ СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ)

Над новым сьветам, у новым небе між новых зораў зырка зьзяе шасьцізорны Паўдзённы Крыж. Мільёны зораў наўкола яго выдаюцца лагоднапалымянымі сьвечкамі сіняй прадоннай прасторы. Там — усё далёкае ад нас і такое вялікае, бязьмежнае, неабдымнае! І разам з гэтым у думках — блізкае! Мы так блізка ў імкненьнях парываемся да яго. І колькі прыгаства крыецца, апрача Зямлі, у гэтым высокім, яшчэ ня ў поўнай меры дасягнутым чалавекам сьвеце! Найвышэйшая гармонія кіруе ўсімі сіламі — і тымі, што высока ад нас, і тымі, што поруч з намі.

Гаснуць зоры. Неба палымнее чырвонаружовай зарой. Узыходзіць сонца. Раніца. Зямля новага сьвету пасвойму ажывае разам з усім — і флёрай, і фаўнай. Прабуджаецца квінсляндзкая сонечная і заўсёднялетняя Паверхня Раю (Surface Paradise). З буйнейшымі раньнімі сіламі імкнецца ў бясконцасьць прастораў нястрымнаводны Мурэй. Таропка скача па родных прасторах думны кенгуру. Увішна лазіць на дрэвах жвавы аўстралійскі мядзьведзік.

Пры нараджэньні дня грамада Беларусаў — каля 20-ці аўтаў і каля 100 чалавек — рушыла ў дарогу. Мэта падарожжа — маёўка ў Народным парку Каралеўскага возера. Парк заняў сабе пачэснае месца ў 40-ох мілях ад Мэльбурну на 14-ці тысячах акраў зямлі. Мае каля 100 пародаў і дрэваў, і птушак.

Была сярэдзіна сакавіка. Пачатак аўстралійскай восені. Прыгожы сонечны дзень нагадваў беларускую вясну — канцакрасавіковую і пачаткатравенскую.

Разьмясьціліся на лаўках пры шырокіх сталох — усё адмыслова зробленае для маёўкаў. Побач — печы для вогнішчаў. Падсілкаваліся й вырушылі на прагулку. Вясёлыя й жыцьцярадасныя дзеці наладзілі свае гульні — пускалі высока ў неба летакі й ракеты. Усё хутка, прывязанае да ніткі вярталася назад і зноў паўторна шугала высока.

Прагулка зьвілістаю сьцежкаю вяла ўздоўж нястрымных спадаў вады. Серабрыстыя струмені лагодна цурчэлі з гораў, разьбіваючыся аб чыста вымытыя, нібы адшліфаваныя, каменьні й скалы. Высокія, магутныя эўкаліпты ўпіраліся густымі чубамі ў вышыню. Ува ўглыбленьнях, дзе вада спынялася, часова стаяла, адсьвечваліся рэдкія бялёсыя хмурынкі зь неба. І ўсіхныя пачуцьці надоле былі спалучаныя разам з чароўным нізам і празорнай вышынёй. Высока цьвіцелі бельлю густыя хмызьнякі. Выдавалася, белыя клубочкі сьнегу ападаюць з хмызьнякоў, ператвараючыся ў пену струменяў. І хоць на сьвеце краса — адна з мноствам розных аздобаў, думкі парываліся далёка-далёка да роднай беларускай красы, „да шумных рэк і да вазёраў поўных", да ўсяго, чым дыхалася і сярод чаго раслося змалку.

Вярталіся на месца стаяньня зачараваныя прыгожасьцю наваколля. Распальвалі вогнішчы, смажылі сьвініну й бараніну, пяклі цыбулю й бульбу. А колькі было запраўдных пякуноў бульбы ў гарачым прысаку й попеле! — яшчэ ад таго часу, калі „пастушком ганяў у бор". Усё смакавала на сьвежым паветры, як ніколі. Ізноў падсілкаваліся. Птушкі парку вітаюць наведвальнікаў радасным сьпевам, потым часова замаўкаюць, каб даць голас людзям. Загучэлі, паліліся з грудзей песьні, родныя песьні. Сярод грамады — і сьпевакі беларускага мяшанага хору ў Мэльбурне. Яны надавалі тон усім песьням.

*Люблю наш край, старонку гэту ...*
і
*Зорка Вэнэра ўзыйшла над зямлёю*

гучна разам зь іншымі песьнямі паланілі лес. У іх жыла частачка сьпеўнай Беларусі.

Ехалі дадому поўныя радасьці й натхненьня, а таксама і з сумам, што ня ўсе суродзічы ў сьвеце праводзяць час так уцешна й здавольна.

***

Праз тыдняў пяць адбылася новая маёўка. Паехалі ўсе ў сасновы й яловы лес паміж Баларатам і Далесфордам. Эўрапейскі лес насаджаны ў пачатку гэтага стагодзьдзя. Пасярод яго — ціхае возера. Буйна й густа расьце паміж дрэваў папараць. І грыбы — знаёмыя нам яшчэ ў маленсьцьве грыбы — хаваюцца пад іголкамі яловых і сасновых галінаў, часам выглядаючы спад іх. Безьліч шышак сябруе з грыбамі. Рыжыкі і масьлякі, прыгожыя, паважныя мухаморы. Рыжыкі й масьлякі зьбіраюцца ў кошыкі, а мухаморы не кранаюцца, ня зьбіраюцца. Няхай растуць сабе, як той у жыцьце васілёк, які прыносіць шкоду. Але ня зьнішчаецца, бо ягоная краса прыйшлася да спадобы беларускаму селяніну. Баравікоў і іншых грыбоў няма. Яны ня ўжыліся з глебай і клімaтам.

Адведзіны лесу былі ня толькі мэтай маёўкі, але й зьбіраньнем грыбоў і лоўляй рыбы на возеры. Адны ахвотнікі пайшлі з кошыкамі ў грыбы, іншыя з вудамі на возера, у рыбу. Вярнуліся з поўнымі кошыкамі грыбоў, зь цяжкаватымі торбамі рыбы. Як і на ранейшых маёўках, расклалі вогнішчы, смажылі падсілкаваньне. Ізноў беларускія песьні, дружны хор, сяброўская грамада. Перад вачыма — прыгожы лес, беларускі бор у далёкім сьвеце!

***

У дзень сьвяткаваньня Кангрэсу й Абароны ў Беларускім Доме ў Мэльбурне — пасьля дакладаў і мастацкай часткі — адбыўся сяброўскі вечар. Размовы, успаміны з маленства, з дому лучылі ўсіх у вадну сям'ю. Шклянка гарбаты, або чарка іншага пітва падбадзёрвала і падтрымлівала настрой. І цяпер не абыйшлося бязь песьняў. Сьпявалі і тыя-ж харыстыя, што раней былі на сцэне. Але сьпеў на залі, пры стале выдаваўся больш гучнейшым і сардэчным — яшчэ ад большага сэрца, як на сцэне! Да сьлёзаў закрануў выступ спадарыні Надзі Грушы зь песьняй „Беднае сэрца мамы". Узварушыла ўсіх і дэклямацыя вершу „Гамоніць даўнай праўды звон".

Дарагая Бацькаўшчына жыве ў нашых сэрцах, пяшчотна цепліцца ў пачуцьцях, ясьнее, ня гасьне ў думках зьзяйным хараством.

**Антон Дабрыдзень**

**Аўстралія.**

